–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
7
МАЯ
1993 г.
№ 18 (3688)
КОШТ
3 рублі





# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, САЛДАТ

Франтавы фотакарэспандэнт, які рабіў гэты здымак, наўрад ці папытаў у стомленага, змучанага вайной салдата яго імя, а тым больш імя хлапчаняці, якога ён моцна прыціснуў да сябе. А мо і папытаў, і занатаваў, ды так сталася, што прапаў той франтавы блакнот, а разам з ім -- і імёны двух чалавек з той, сёння далёкай ужо ад нас вайны. І ўглядаемся мы цяпер проста ў фотадакумент, у Яго Вялікасць дакумент гісторыі, штоданёс да нашых дзён толькі адно /але якое!/ імгненне Вялікай Айчыннай...

Кожнага чацвёртага жыхара Беларусі ўзяў малох вайны... Над гэтымі дваіма са здымка вайна злітавалася.

Я спрабую сабе ўявіць, колькі дзён і начэй у залітых вадой акопах і зямлянках, адступаючы і наступаючы пад грозную музыку вайны, губляючы ў крывавай сечы сяброў і таварышаў, гэтаму салдату мроілася вось такая сустрэча, вось такое імгненне, калі можна будзе прыпасці да родных дзіцячых вуснаў. Дзякуй Богу, здзейснілася.

Пра далейшы іх лёс можна толькі здагадвацца. Дэмабілізаваны салдат, відаць, адразу пайшоў працаваць, ладзіць разбуранае вайной жыццё. Але і думкі такой у яго не магло тады з'явіцца, што пройдзе час, і пераможаная ім краіна зажыве ў шмат разоў лепей, чым яго...

Ну, а хлапчаня? Колькі яму тут? Гадоў сем-восем? Значыць, сёння пад шэсцьдзесят. Хацелася б спадзявацца, што жыццё не вельмі кідала яго па сваіх перакатах, што ў яго добрая сям'я, дзеці, унукі. Мо ўжо і такія, як ён на тым далёкім здымку.

Вось такі кругазварот жыцця.

Яшчэ раз углядзімся ў фотаздымак. Добры дзень, салдат. Са святам Перамогі цябе!

**М. З.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# А ДОШКА Ж БЫЛА СКАРЫНАВА!

Мы здзіўлены той крытыкай, якая прагучала на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адрасу Міністэрства замежных спраў у сувязі з адкрыццём мемарыяльнай дошкі ў Падуі. Бо пры гэтым тэндэнцыйна не было сказана, каму прысвечана тая дошка і пры якіх акалічнасцях усё адбывалася.

А на дошцы, зробленай таленавітым беларускім скульптарам Валерыем Янушкевічам і ўрачыста ўстаноўленай на сцяне Падуанскага універсітэта, — выява нашага славутага першадрукара і асветніка-гуманіста Францішка Скарыны, які 480 год назад, у 1512 г., здаў там бліскуча экзамены на тытул доктара медыцыны. Дошку гэтую павінны былі адкрыць два з паловай гады назад — калі святкавалася 500-годдзе нараджэння вялікага Палачаніна. Але тады не было яшчэ разумення і італьянскага боку. Спатрэбіліся два гады напружанай **дыпламатычнай** работы, каб нарэшце дамагчыся свайго. І ў выніку атрымалася вялікае свята беларускай культуры, якое ў перспектыве можа даць болей, чым іншыя перамовы. У час гэтага свята многія і многія італьянцы ўпершыню адкрылі для сябе Беларусь. І сталі ее сябрамі, што пацвярджаюць канкрэтнымі справамі, як, напрыклад, дырэктар фірмы «Сімод» Паола Сінігалья, што прыязджаў у Беларусь, каб наладжваць сувязі і аказваць канкрэтную эканамічную дапамогу. Іншыя даюць грошы на выданне матэрыялаў першай беларуска-італьянскай навуковай канферэнцыі /яна адбылася адначасова ў Венецыі/, як гэта робіць венецыянскі фонд Чыні. А колькі італьянцы сёння робяць для беларускіх ахвяр Чарнобыля!

І яшчэ адна важная акалічнасць: дзякуючы ініцыятыўнасці Міністэрства замежных спраў паездку ў асноўным фінансавалі італьянскія спонсары. Разумеючы, што ў Беларусі няма валюты, мы пагадзіліся ехаць праз усю Еўропу аўтобусам, начуючы ў ім і харчуючыся хатнімі бутэрбродамі. І дзеля Скарыны, дзеля ўмацавання беларуска-італьянскіх сувязяў — трывалі. Разумелі, што гэта патрэбна для Беларусі, дзеля яе вяртання ў Еўропу.

І раптам усё гэта паказваецца так, нібы яно нейкая дробязь і нікому непатрэбна. Ні нашаму Адраджэнню, ні нашай гістарычнай памяці, ні нашаму міжнароднаму прэстыжу. Нібы прапаганда ў свеце беларускай культуры, навукі, музыкі, нацыянальнай спадчыны, беларускага слова не актуальна сёння.

Вельмі шкадуем, што наша плённая паездка ў Італію і звязаныя з ёю мерапрыемствы ў Падуі і Венецыі, якія мелі важнае не толькі культурнае, але і палітычнае значэнне, атрымалі неаб'ектыўную і несправядлівую ацэнку з такой высокай дзяржаўнай трыбуны Рэспублікі Беларусь.

**Г. ГАЛЕНЧАНКА, заг. аддзела Інстытута гісторыі АН Беларусі; М. ГРЫГОРЧЫК, лаўрэат міжнародных конкурсаў; М. КАЦНЕЛЬСОН, дырэктар ансамбля салістаў «Класік-Авангард»; А. ЛОЙКА, дэкан філфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта, член-карэспандэнт АН Беларусі; А. МАЛЬДЗІС, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны; Ф. МІХАСЕНКА, старшыня Таварыства Дантэ Аліг'еры; В. ЧАМЯРЫЦКІ, заг. аддзела Інстытута літаратуры АН Беларусі**

*ДАПАЎНЕННЕ*

# ПРЭВЕНТЫЎНАЯ ПАРТЫЯ

У мінулым нумары мы паведамілі пра вынікі работы чарговага сойма БНФ. На жаль, па-за ўвагаю аўтара нататкі засталося рашэнне сойма аб магчымасці стварэння ў рамках БНФ партыйнай структуры. «У цяперашніх варунках існуе небяспека, што Вярхоўным Саветам можа быць уведзена забарона на ўдзел у выбарчай кампаніі для рухаў, што пазбавіць БНФ магчымасці актыўна ўдзельнічаць у выбарах», — гаворыцца ў пастанове. «Каб запабегчы гэтаму», разглежджана магчымасць стварэння ў рамках фронту партыі, прычым гэта будзе партыя парламенцкага тыпу; яе праграмай будзе праграма БНФ; дзейнасць партыя распачне з пачаткам выбарчай кампаніі і толькі пры ўмове, калі грамадска-палітычным рухам сапраўды будзе забаронена ўдзельнічаць у выбарах.

Пасяджэнне па стварэнні Партыі Беларускага Народнага Фронту мяркуецца правесці падчас III з'езда БНФ у траўні г. г.



рыхтаваных рукапісаў, дык становішча не з лепшых. Пра гэта гаварыў дырэктар выдавецтва «Юнацтва» В. Лукша. Калі ў 1985—1986 гадах выпускалася 160—170 назваў кніг у год, дык цяпер колькасць гэтая знізілася ў два разы і болей. Самае горшае — затрымліваюцца кніжкі для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі задалі ие арганізатарам шмат пытанняў. Ваш карэспандэнт, у прыватнасці, цікавіўся ажыццяўленнем праграмы выпуску гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Адказ далі А. Бутэвіч і Б. Сачанка. Першыя адзінаццаць кніг серыі выйшлі ў «БелЭне». Нядаўна пабачыла свет хроніка Хойніцкага раёна, на падыходзе — Гродзенскага. На 1994 запланаваны хронікі Расонскага і Рагачоўскага раёнаў. Паскорана рыхтуецца кніга, прысвечаная 50-годдзю Перамогі. Вялікія цяжкасці з фінансаваннем. Напрыклад, сабекошт аднаго экземпляра «Хойніцкай хронікі» — 628 рублёў, а том прадаецца за 180 рублёў. Кніга «Гродзенскай хронікі» пацягне ўвогуле за тысячу рублёў. Выдавецтва, каб «зарабіць» паперу, сказаў Б. Сачанка, вымушана выпускаць такія энцыклапедыі, як «Фотография», «Культура питания», «Энциклопедия молодой семьи». А. Бутэвіч бачыць выйсце ў тым, каб хронікі фінансавалі і мясцовыя раённыя ўлады, з боку дзяржавы неабходна падключаць да гэтай справы і мецэнатаў, адкрыць спецыяльны рахунак.

На пытанні журналістаў адказвалі таксама першы намеснік міністра інфармацыі С. Нічыпаровіч, намеснік Ю. Кедзіч, генеральны дырэктар «Белкнігі» А. Гурыновіч, дырэктары выдавецтваў С. Андраюк /«Мастацкая літаратура»/, І. Лапцёнак /«Народная асвета»/, А. Патупа /«Эрыдан»/, дырэктар Навукова-метадычнага цэнтра па выпуску хронік «Памяці» А. Петрашкевіч...

А пасля было знаёмства з самой выстаўкай. Уражанне — неблагое. Беларуская кніга і ў гэты цяжкі час жыве і робіць сваю высакародную адраджэнскую справу.

**Н. К.**

# ЦІ БУДЗЕ БЕЛАРУСКІ ВАЎЧАР?

***Карэспандэнт «ЛіМа» гутарыць з першым намеснікам старшыні камітэта па кіраванні дзяржмаёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Казімірам РАМАНОЎСКІМ***

— Ключавы момант сённяшніх эканамічных рэформ — змена адносін уласнасці, у прыватнасці, прыватызацыя дзяржаўнай маёмасці. Сфера для нас зусім новая, і таму вельмі важна ў гэтай справе знайсці аптымальнае рашэнне гэтай праблемы. У такім ключы мне б і хацелася, Казімір Эдуардавіч, весці нашу гаворку. Але перш за ўсё давайце вызначымся з пытаннем, чым валодае зараз наша рэспубліка?

— Камітэт па кіраванні дзяржмаёмасцю, а яму яшчэ толькі два гады, пачаў сваю дзейнасць з, так сказаць, інвентарызацыі, узяцця на ўлік усяго, што знаходзіцца на балансе дзяржавы: прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы з іх асноўнымі зваротнымі фондамі, грашовымі сродкамі, адміністрацыйныя і іншыя збудаванні, жыллё, дарогі, транспарт і многае іншае.

— І на якую суму ўсяго гэтага набягае?

— Асноўныя дзяржаўныя фонды на канец 1992 года ацэньваліся ў адзін трыльён дзвесце мільярдаў рублёў, у тым ліку на 763 мільярды рублёў вытворчых фондаў і на 460 мільярдаў невытворчых. Дадамо да гэтых лічбаў яшчэ адну: у рэспубліцы — 30 тысяч прамысловых прадпрыемстваў.

— Гэта з тымі, што раней належалі саюзным міністэрствам? Помню, мне расказвалі ў Наваполацку, што мясцовымі нафтахімічнымі заводамі распараджаюцца аж тры маскоўскія міністры.

— Усе падобныя аб'екты сёння — уласнасць Беларусі. Хоць, прызнацца, прыняць іх, «прапісаць» у існуючай прамысловай сістэме /некаторыя прадпрыемствы належалі саюзным міністэрствам, якія не мелі аналагічных у рэспубліцы/ было не проста. Але з гэтай задачай, мяркую, мы справіліся няблага.

— Адно з папулярных слоўцаў новага часу — прыватызацыя, хоць, мне здаецца, нямнога людзей у нас ведаюць добра, з чым яе ядуць. Пакуль што грамадства поўніцца на гэты конт рознымі чуткамі, версіямі, плёткамі, сутнасць якіх можна выказаць адной фразай — усю прыватызацыю прыбрала да рук мафія разам з прадажнымі дзяржаўнымі чыноўнікамі. Зусім нядаўна мне давялося па справах сустракацца з начальнікам упраўлення па агульным наглядзе Пракуратуры рэспублікі Мікалаем Міхайлавічам Купрыянавым. Ён паскардзіўся, што з дваццаці супрацоўнікаў упраўлення пятнаццаць заняты расследаваннем спраў, звязаных з незаконнай прыватызацыяй. Асаблівы імпэт, падкрэсліў ён, дэманструе былая партдзяржнаменклатура.

— Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі паведаміла нам 390 выпадкаў быццам бы незаконнай прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. Я кажу «быццам бы» таму, што ў гэтай справе адбываецца падмена паняццяў. Тое, што маюць на ўвазе праваахоўныя органы, не прыватызацыя, а продаж маёмасці, а, часам, сапраўды, яе разбазарванне. Хто тут вінаваты? Не ў апошнюю чаргу недасканаласць нашага заканадаўства. Паглядзіце артыкул 37 Закона аб прадпрыемствах. У ім сказана, што кожнаму заводу дадзена права прадаваць, перадаваць бязвыплатна свае вытворчыя памяшканні, абсталяванне, спісваць з балансу сродкі вытворчасці.

— Маецца на ўвазе, скажам, станок, які выпрацаваў свой рэсурс?

— Неабавязкова. Можна прадаць, ці падараваць, і новы. Не сакрэт, што многія прадпрыемствы перадавалі арэндным калектывам значную частку асноўных фондаў, зваротных сродкаў і да т. п.

— Мне расказваў старшыня Кантрольнай палаты Беларусі Васіль Андрэевіч Саковіч, што менавіта падобная практыка ўжывалася на буйнейшым прадпрыемстве рэспублікі — «Гомсельмашы», на базе якога было створана некалькі малых прадпрыемстваў, што раскашавалі на заводскім абсталяванні, займалі заводскія памяшканні, нічога амаль не даючы прадпрыемству ўзамен. У выніку прынятых Кантрольнай палатай мер генеральны дырэктар «Гомсельмаша» быў ад пасады вызвалены, пакараны і іншыя мясцовыя работнікі, але хто кампенсуе дзяржаве нанесеныя страты? І ў гэтым выпадку і ў выпадках, пра якія вы, Казімір Эдуардавіч, гаворыце, упэўнены, не абышлося без мяхлярства, хабару. Як кажуць, рука руку мые.

— Не выключана.

— А куды глядзеў урад?

— Кіраўнікі асобных прадпрыемстваў, заключаючы альянс з арандатарамі, малымі прадпрыемствамі, страхаваліся пры гэтым дазволам сваіх міністэрстваў.

— Адказным работнікам якіх за гэта таксама, мабыць, перападала нямала...

— Магчыма. Але справа ў тым, што міністэрствы не з'яўляюцца ўласнікамі дзяржмаёмасці. Адзіны яе ўласнік — Савет Міністраў. Ды пакуль там гэта было ўсвядомлена, у рэспубліцы было разбазарана, а то і проста раскрадзена дзяржаўнай маёмасці на дзесяткі, а мо і на сотні мільёнаў рублёў. Зараз усякае адчужэнне дзяржаўнай уласнасці, г. зн. перавод яе з адной формы ўласнасці ў другую, адбываецца пад строгім кантролем. Так быў нядаўна перададзены Гродзенскаму аблвыканкому ваенны гарадок, што застаўся пасля расфарміравання воінскай часці. Праўда, выканком не ведае, што з ім рабіць, ніхто не хоча браць.

— Нават камерцыйныя структуры?

— Яны б узялі, але мы пакуль што не дазваляем.

— Чакаеце, пакуль навакольныя жыхары не разнясуць той гарадок па цаглінцы, дошчачцы?

— Можна знайсці прымяненне гэтаму аб'екту і без прыватнікаў. Адным словам, трэба адрозніваць продаж ад прыватызацыі. Прыватызацыя — гэта працэс змены форм уласнасці. Да таго ж, кожны аб'ект, прызначаны для прыватызацыі, уключаны ў спецыяльную праграму, якая зацвярджаецца Саўмінам, ствараюцца камісіі па прыватызацыі, што праводзяць ацэнку, вызначаюць яе форму.

— І шмат у нас ужо прыватызавана маёмасці?

— 253 аб'екты, з іх 51 рэспубліканскай і 202 камунальнай уласнасці. Апошнім часам наш камітэт распрацаваў дзяржаўную і рэспубліканскую праграму прыватызацыі.

— Якая паміж імі розніца?

— Дзяржаўная праграма раскрывае закон аб прыватызацыі, намячае агульную стратэгію ў гэтай справе, рэспубліканская — мае на ўвазе тактычныя дзеянні па галінах, асобных прадпрыемствах і г. д. Мясцовыя Саветы будуць таксама распрацоўваць свае праграмы прыватызацыі.

— Але пагадзіцеся, Казімір Эдуардавіч, прыватызацыя ў рэспубліцы праводзіцца надзвычай марудна, з вялікім скрыпам. І наогул, у масавай свядомасці народа яшчэ не адбылося перамен, звязаных са зменамі ў галіне адносін уласнасці. З абстрактнага лозунга прыватызацыя пакуль не ператварылася ў элемент паўсядзённага жыцця. Я думаю, што вельмі тармозіць прыватызацыю і страх наменклатуры згубіць рэшткі дзяржаўнай уласнасці. Класікамі яшчэ сказана — у каго ўласнасць, у таго і ўлада. Паглядзіце, як тармозіцца прыняцце праграмы прыватызацыі ў Вярхоўным Савеце, дзе кансерватыўная большасць дэпутатаў у штыкі прыняла прапанаваны апазіцыяй БНФ праект закона аб прыватнай уласнасці на зямлю, імянных прыватызацыйных чэках.

— Пра чэкі мы пагаворым крыху пазней, а што датычыць прыватнай уласнасці на зямлю, дык і я, як чалавек, які шмат гадоў аддаў працы ў аграрным сектары, таксама супраць. Зямлю трэба даваць у доўгатэрміновую арэнду, каб у дрэннага гаспадара яе можна было б забраць. Калі ж зямля апынецца ў прыватнай уласнасці і будзе дазволена яе купля-продаж, дык яе адразу скупяць людзі з тоўстымі кішэнямі.

— Даруйце, Казімір Эдуардавіч, але гэтае палоханне грамадзян тым, што нехта адразу скупіць зямлю і навaспечаныя «латыфундысты» зробяць сялян сваімі парабкамі, стала ўжо агульным месцам у камуністычнай прапагандзе. Шэсць дзесяткаў гадоў існуе калгасна-саўгасны лад, а краіну ён так і не накарміў. Амаль увесь пасляваенны час мы купляем збожжа ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Францыі...

— Застанёмся кожны пры сваіх поглядах на гэтую праблему. Ды, дарэчы, «Дзяржмаёмасць» зямельнымі пытаннямі не займаецца, гэта кампетэнцыя Камітэта па зямельнай рэформе.

— Дзіўна, зямля ж таксама маёмасць, ды яшчэ, відаць, самая значная. Але я прымаю вашыя правілы «гульні». Давайце пагаворым пра імянныя прыватызацыйныя чэкі. Мне нават у транспарце даводзілася чуць размовы наконт таго, што на Беларусі, у адрозненне ад Расіі, урад не збіраецца рабіць грамадзян уласнікамі дзяржаўнай маёмасці.

— Калі вы маеце на ўвазе расійскі ваўчар, дык ён сябе, на маю думку, не апраўдаў. Яго выпуск быў хутчэй палітычнай, чым эканамічнай акцыяй.

— Тым не менш, калі напачатку людзі там не разумелі, што такое імянны прыватызацыйны чэк, навошта ён патрэбны, дык цяпер, мяркуючы па прэсе, яны заклапочаны тым, як той ваўчар лепей выкарыстаць, якія акцыі за яго набыць. Мне давялося прысутнічаць на прэс-канферэнцыі намесніка старшыні Камісіі па эканамічных рэформах Вярхоўнага Савета рэспублікі Віктара Пятровіча Алампіева, які, на мой погляд, выклаў цікавую праграму прыватызацыі, распрацаваную яго камісіяй. Як я зразумеў, асноўны стрыжань праграмы — бязвыплатная прыватызацыя 50 працэнтаў усёй дзяржмаёмасці рэспублікі, што, на думку Алампіева, спрыяла б з'яўленню на Беларусі так званага сярэдняга класа ўласнікаў — апірышча і гаранта палітычнай і эканамічнай стабільнасці ва ўсіх цывілізаваных краінах.

— Канцэпцыя нашага камітэта некаторым чынам адрозніваецца ад пазіцыі камісіі па эканамічных рэформах Вярхоўнага Савета. У прыватнасці, па форме рэалізацыі чэкаў. Мы прапануем гэта рабіць пад строгім кантролем органаў «Дзяржмаёмасці», камісія ж — за свабодную рэалізацыю. Вялікія хібы мае і ідэя бязвыплатнай прыватызацыі.

— Але ж нельга не пагадзіцца з аргументацыяй Алампіева, які зыходзіць з таго, што няма альтэрнатывы бязвыплатнай прыватызацыі — у грамадзян рэспублікі назапашана грошай, якіх хопіць толькі на выплату 5 працэнтаў дзяржмаёмасці рэспублікі.

— Я магу вам з лічбамі ў руках даказаць, што праграма, распрацаваная парламенцкай камісіяй па эканамічных рэформах і падтрыманая апазіцыяй БНФ, не жыццяздольная і нічога карыснага не ўтрымлівае.

На пачатак 1992 года кошт асноўных вытворчых фондаў у рэспубліцы складаў 763 мільярдаў рублёў. Да гэтага трэба дадаць яшчэ

*(Працяг на стар. 4)*

# У БОГА ЎСЕ МЫ ЖЫВЫЯ...

## Пачатак

Не думаў, не гадаў, што гэтыя семсот метраў лясной дарогі ў той майскі сонечны дзень мінулага года так адгукнуцца ў маім сэрцы. Ехалі мы з сынам са Смалявіч у Смілавічы. Дарога як дарога. У адным месцы ўбачылі ўказальнік — «Аб'езд». Рамантавалі дарогу. Спыніліся на хвілінку. І раптам убачылі, што коўш экскаватара высыпаў на ўзбочыну разам з зямлёй некалькі чарапоў і косткі. Падышлі бліжэй. Убачыўшы нашу цікаўнасць, з кабіны экскаватара высунуў галаву машыніст і крыкнуў: «Тут гэтага дабра навалам. Фрыцы забітыя. Вунь і каскі іх ляжаць...» Побач з астанкамі ляжала ржавая, прабітая куляй каска, некалькі невялікіх металічных пласцінак, пфенінгі, гузікі.

Немцы то, немцы, але ж — людзі. Нам з сынам стала ніякавата. Сабралі мы астанкі ў цэлафанавы мяшок і перазахавалі далей ад дарогі, пад разгалістай сасной. Ля дрэва на ўсялякі выпадак паклалі вялікі камень.

Франтавікі помняць: кожнаму салдату разам з патронамі выдавалі так званы «пашпарт смерці». Гэта быў пластмасавы пенальчык, куды закладвалася паперка з дакладным хатнім адрасам, прозвішчам і імем. Але, на вялікі жаль, «сховішча» гэтае было не вельмі надзейным. Трапіўшы ў зямлю, той пенальчык з цягам часу пачынаў прапускаць вільгаць, разбурацца. Немцы тут нас «пераплюнулі» — замест паперак яны прышывалі да кіцеля металічны жэтон, на якім быў выбіты асабісты нумар уладальніка, а таксама нумары дывізіі, палка, аддзялення.

Дык вось, побач з чарапамі ляжалі два жэтоны з нумарамі 5379 і 1291 «А». Жэтоны я ўзяў з сабой. Дзеля чаго?

Спачатку дазволю сабе невялікае адступленне. Я сам родам з Быхава. Мястэчка хоць і называлася раней яўрэйскім, — якраз Екацярына Вялікая і правяла тут «рысу аседласці, — але жыло ў тым мястэчку і шмат беларусаў. Мо хто помніць дарэвалюцыйную песню: «Папалам дзялілі, пад адным прымусам, гора і галечу яўрэй з беларусам». Дык вось, гэта якраз і напісана, мне здаецца, пра стары Быхаў. І жыла там да вайны ўся мая радня — усе 198 «чыгунчыкаў». Дзед мой Якаў рамантаваў чыгуны, таму і празвалі ўсіх яго дзяцей, унукаў і праўнукаў «чыгунчыкамі». Пражыў дзед 98 гадоў і 8 месяцаў і было ў яго ні многа, ні мала 18 дзяцей: дзесяць дзевак і восем хлопцаў. Усе прыгажуны, як на падбор: высокія, стройныя, чарнавокія. А ў іх дзяцей былі свае дзеці, у тых — свае. Адным словам, усіх разам было... Мы з мамай аднойчы падлічылі — 198. Гэта не лічачы мамы. І ўсе, як кажуць, у адзін «цудоўны» дзень былі завезены ў чорных аўтобусах-«душагубках» за Днепр і расстраляны немцамі. Усе 198 ляжаць у адной «братняй» магіле, няхай зямля ім будзе пухам!.. Так што рахунак у мяне да немцаў асаблівы.

Вось такія ўспаміны нахлынулі на мяне ў тую майскую раніцу, калі я трымаў у руцэ два жэтоны загінуўшых нямецкіх салдат. Можа, гэта якраз яны і расстралялі ўсіх маіх 198 «чыгунчыкаў» — дзядзькоў, цётак, братоў і сясцёр?

Спазнаў «па чым фунт ліха» і я на вайне. Мне давялося павяваць на Ленінградскім фронце, прарываць блакаду. Быў паранены ў руку, нагу, цяжка — у жывот, а ў дадатак яшчэ і кантужаны.

І гэта ўсё прыгадалася мне на той лясной дарозе, ля вёскі Пяцігодка, там, дзе падняў я два жэтоны загінуўшых, але ўсё роўна ненавісных мне нямецкіх салдат. Я ведаў, што ў 1944 годзе тут, пад Мінскам, была палонена стотысячная армія «Цэнтр». А гэтыя двое засталіся тут, на беларускай зямлі, назаўсёды. Міжволі падумалася: хто яны, хто ў іх застаўся там, у фатэрляндзе — бацькі, сёстры, браты?

Калісьці Напалеон, калі не памыляюся, упершыню прамовіў словы «гарматнае мяса». А нядаўна прачытаў і такое выказванне — ідэолага прускай ваеншчыны, філосафа Артура Шапэнгаўэра: «Ва ўсе часы і ў любога народа салдат — гэта трагічная фігура. На вайне ён павінен па загадзе страляць, забіваць іншых салдат, не ведаючы іх і не адчуваючы да іх нянавісці. І ўсё гэта па загадзе людзей, якія адзін аднаго ведаюць, ненавідзяць, але якія адзін у аднаго не страляюць».

Летась у Маскве адбылася сустрэча вучоных-сацыёлагаў дзвюх краін — Германіі і былога СССР, на якой абмяркоўвалася адзінае пытанне — ахвяры дзвюх дыктатур. Вучоныя падлічылі, што ў той тройчы праклятай вайне было знішчана 30 мільёнаў чалавек.

І я вырашыў паспрабаваць адшукаць прозвішчы гэтых двух забітых нямецкіх салдат. З чаго пачаць? Зрабіў фотаздымкі месца іх гібелі, жэтонаў і пайшоў у Чырвоны Крыж. Там паказалі мне на сцяну, на якой віселі адрасы Міжнароднага Чырвонага Крыжа ў Жэневе, у Боне, у Лондане. Напісаў я туды пісьмы, уклаў у канверты фотаздымкі. Мінуў час, а адказу, на жаль, усё не было і не было.

Сябры казалі мне: не тым заняўся, шукаў бы адрасы загінуўшых савецкіх салдат, тысячы і тысячы ляжаць іх, непахаваных, па лясах. Але я ўжо не мог пакінуць пачатай справы. Напісаў у папулярны нямецкі часопіс «Шпігель». Адказ атрымаў адразу ж. Рэдактар часопіса Йорг Метке дзякаваў за, як ён пісаў, «бяспрыкладны ўклад у справу прымірэння на магілах загінуўшых». Паведамляў, што пісьмо маё ён пераслаў у Бон, у пошукавы аддзел, адкуль мне, маўляў, паведамяць. Я зразумеў, што спадар Метке проста пісьмо маё «адфутболіў».

У Маскве, як я даведаўся, знаходзіцца карэспандэнцкі пункт Берлінскага тэлебачання. Адправіў я пісьмо з фотаздымкамі туды. Па тэлебачанні фотаздымкі жэтонаў змогуць паглядзець мільёны людзей, могуць адгукнуцца аднапалчане, бо на жэтонах дакладна ўказаны нумар часці, аддзялення. З карпункта мне пазванілі на наступны дзень. Нехта спадар Буц сказаў, што ён вельмі рады пісьму, што днямі павінен прыехаць у СНД Коль. Ён яшчэ не вырашыў, куды паехаць — ці ў Мінск, ці ў Кіеў. «Калі ў Мінск: то мы зробім вялікую «помпу», уручым яму жэтоны, зробім здымкі на месцы захавання...» Спадар Буц прасіў перазваніць праз дзень...

«Помпы» не атрымалася — Коль паехаў у Кіеў...

## Фрэд Нагель

Тады я пайшоў у музей Айчыннай вайны. Дырэктар музея Аляксандр Іосіфавіч Ульяновіч зацікавіўся маім аповядам, даў адрас нейкага немца з горада Наунхоф:

— Немец, які нам піша, ці то пісьменнік, ці то настаўнік. Ён піша часта, цікавіцца рознымі пытаннямі, звязанымі з мінулай вайной.

Я напісаў у Наунхоф ліст. Праз тыдзень атрымаў адказ.

Фрэд Нагель, так ён назваўся, дзякаваў за пісьмо, абяцаў памагчы ў пошуку загінуўшых салдат, і калі ўдасца нешта знайсці — абавязкова паведаміць. Пра сябе ён напісаў, што ў 1945 годзе, у канцы вайны, яго, 16-гадовага хлапчука, мабілізавалі ў армію. Праз чатыры месяцы апынуўся ў нас у палоне, у карэльскіх лясах. Там ён правёў чатыры гады — працаваў на лесапавале. Там, у палоне, навучыўся гаварыць па-руску, іграць на гармоніку. Вярнуўшыся дадому, працаваў мулярам, а вечарамі іграў у кавярні на гармоніку рускія песні. Потым пайшоў вучыць нямецкіх дзяцей рускай мове.

І яшчэ пра адно пісаў Фрэд Нагель. Вакол яго вёскі — каменяломні. З першых дзён вайны туды пачалі прывозіць на катаржныя работы савецкіх ваеннапалонных. Ад голаду, холаду, непасільнай працы людзі мерлі. Хавалі іх на мясцовых могілках.

«Калі я вярнуўся з палону дадому, — пісаў Нагель, — магілы на нашых мясцовых могілках былі закінуты. Час для немцаў таксама быў цяжкі. Нікому ў галаву не прыходзіла ўпарадкаваць магілы салдат варожай арміі. Узяўся за гэта я. Разам з жонкай Лорай мы пачалі хадзіць на могілкі па два разы на тыдзень. Пакланіўшыся магілам родных, мы браліся прыводзіць у парадак магілы рускіх. Гэтым мы займаемся ўжо больш за сорак гадоў: аднавяскоўцы могілкі нашы называюць не інакш, як «могілкамі Нагеля». І я гэтым ганаруся».

Далей ён пісаў, што неяк вырашыў паспрабаваць адшукаць сваякоў загінуўшых рускіх салдат. Пайшоў у могілкавую кірху, папрасіў у святара кнігу памерлых. Выпісаў з кнігі 200 прозвішчаў і разам са сваімі вучнямі накіраваў у Савецкі Саюз у ваенкаматы розных гарадоў 200 пісьмаў. Адказу не атрымалі ні на адно. Яны пасылаюць паўторна 200 пісьмаў. І зноў ніводнага адказу. Не здагадваўся нямецкі ваеннапалонны, што шмат гадоў на савецкіх ваеннапалонных афіцыйныя ўлады глядзелі як на здраднікаў...

З Фрэдам Нагелем мы пачалі перапісвацца. Я яго ўжо пачаў называць «дарагі Фрэд», ён мяне — «дарагі Яўген». Віншавалі адзін аднаго з Вялікаднем, з Новым годам. Але пра наш пошук ён маўчаў. Нарэшце, амаль праз год, ён атрымаў паведамленне з архіва. Астанкі салдата, які меў асабісты нумар «1291», належаць обер-яфрэйтару сувязі Рыхарду Вайлеру, 1922 года нараджэння. «Пра гэта паведамлена сваякам. Пра другога салдата звесткі высвятляюцца».

(Працяг на стар. 14-15)



*Германія, г. Наунхоф. Могілкі савецкіх грамадзян, што загінулі на фашысцкай катарзе*



*Гэтыя чарапы нямецкіх салдат выкапаў з зямлі экскаватар паблізу Лагойска*

# ЦІ БУДЗЕ БЕЛАРУСКІ ВАЎЧАР?

*(Пачатак на стар. 3)*

40—50 мільярдаў рублёў, якія знаходзяцца на рахунках прадпрыемстваў. Такім чынам, разам гэта складае 800—810 мільярдаў рублёў. Трэцяя частка маёмасці — транспарт, дарогі, масты, метрапалітэн, аэрапорты, авіяцыя і да т. п. з прыватызацыі, як вы разумееце, павінна быць выключана. Вылічаем, застаецца недзе 520—530 мільярдаў рублёў. Як ужо было сказана, бязвыплатнай прыватызацыі паводле праграмы парламенцкай камісіі падлягае 50 працэнтаў кошту дзяржмаёмасці. Значыць, ад гэтай сумы застаецца палова — 260—265 мільярдаў. Падзелім іх на колькасць жыхароў рэспублікі — 10 мільёнаў. Атрымаецца ў сярэднім па 26 тысяч рублёў на душу. З улікам інфляцыі сёння гэтая лічба складзе 80 тысяч рублёў. У 1992 годзе ўсе галіны народнай гаспадаркі мелі 356 мільярдаў рублёў прыбытку, у тым ліку прамысловасць — 231 мільярд.

— Па логіцы і прыбытак таксама павінен быць размеркаваны на імянныя чэкі?

— Не на чэкі, а на акцыі, купленыя за іх. Увогуле ж, на долю дзяржмаёмасці, якая падлягае бязвыплатнай прыватызацыі, прыпадае трэцяя частка прыбытку. Адмінусуем яшчэ выплаты ў бюджэт і для размеркавання застаецца прыблізна 13,5 мільярда рублёў. Па 1350 рублёў на аднаго жыхара рэспублікі, або 1,5 працэнта дывідэнда. Мізэр. Што далей? Далей будзе вось што — кожны ўладальнік беларускага ваўчара захоча яго прадаць хоць па намінале, калі не танней.

— Чаму?

— Таму што большасць людзей мае схільнасць трымаць лепей сініцу ў руках, чым журава ў небе. Чалавек прадасць свой ваўчар, каб, атрымаўшы за яго 80 тысяч, ці нават менш, пакласці іх у ашчадны банк, дзе нават з 30—40 працэнтнай стаўкай /а некаторыя камерцыйныя банкі цяпер узнялі стаўкі да 130 і больш працэнтаў/ ён штогод будзе атрымліваць неблагую рэнту. Гэта, палічыць ён, куды лепей, чым трымаць той чэк, не ведаючы, што з ім рабіць.

— Што з ім рабіць павінен падказаць ваш камітэт, выпускаючы розныя інфармацыйныя бюлетэні, у тым ліку і з курсам акцый.

— Мяркую, цікавіць гэта будзе пераважна людзей з тоўстымі кішэнямі, якія, яшчэ скупіўшы і ваўчары, прыбяруць да рук лепшыя заводы і фабрыкі.

— І сярод іх, вядома, замежныя капіталісты, якімі нас палохалі столькі дзесяцігоддзяў?..

— І замежныя...

— Але ж японцам, я ведаю, належыць у ЗША маёмасці на сотні мільярдаў долараў, а нешта я не чуў, каб амерыканцам было ад гэтага блага, каб нехта там енчыў, што «распрадаюць радзіму». Японскі капітал спрыяе стварэнню новых рабочых месц, папаўняе амерыканскую казну. Я вось толькі не разумею, якому амерыканскаму, ці таму ж нямецкаму капіталісту захочацца купляць нашы прадпрыемствы з іх састарэлым абсталяваннем, адсталай тэхналогіяй? Асабіста я, Казімір Эдуардавіч, за свой ваўчар купіў бы акцыі прадпрыемства, якое трывала стаіць на нагах, з'яўляецца канкурэнтаздольным, мае са сваёй прадукцыяй выхад на сусветны рынак.

— Што тычыцца японцаў у Амерыцы, дык я таксама за нармальныя замежныя інвестыцыі, якія праводзяцца ў строгай адпаведнасці з існуючымі законамі.

— Памыляецца той, хто думае, што ў працэсе прыватызацыі ўсе адразу стануць багатымі. Але прыватызацыя дае шанц рэалізаваць, выявіць свае магчымасці, здольнасці, энергію, талент, вопыт. Бо чалавек становіцца ўласнікам, зацікаўленай асобай.

— Вы кажаце, што будзеце шукаць акцыі эканамічна моцнага прадпрыемства, а як тады існаваць таму ж заводу, які ледзь зводзіць канцы з канцамі? Вы, мабыць, не ведаеце, што 400 прамысловых прадпрыемстваў у рэспубліцы знаходзяцца на мяжы банкруцтва.

— У гэтым уся ірэальнасць нашага жыцця...

— На жаль, у нас не дзейнічае прыняты Вярхоўным Саветам Закон аб банкруцтве. І потым, вы, мабыць, мяркуеце, што пад раздзяржаўленне, прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці павінна пайсці толькі самае лепшае? Памыляецеся. У 250 мільярдаў рублёў — кошт дзяржмаёмасці, якая можа быць размеркавана на імянныя прыватызацыйныя чэкі, — уключаны і прадпрыемствы, якія ледзь ліпяць. Але ж свае акцыі выпусцяць і яны.

— Поўная бяссэнсіца! Усё ставіцца з ног на галаву. І, галоўнае, парушаецца права свабоднага выбару чалавекам форм уласнасці і відаў дзейнасці. Адным словам, сітуацыя, якую вы абмалявалі, як я зразумеў, вам не даспадобы.

— Я гэтага і не хаваю.

— Што ж прапануеце вы?

— У нас ёсць свае пэўныя падыходы да прыватызацыі, у тым ліку, і выкуп дзяржмаёмасці за ўласныя грошы.

— Але ж мы, здаецца, гаварылі ўжо, што грошай, якія ёсць на руках у насельніцтва, хопіць толькі на набыццё не больш за 5 працэнтаў дзяржаўнай маёмасці рэспублікі.

— Так. Сёння на рахунках нашых грамадзян у ашчадных банках рэспублікі налічваецца 55 мільярдаў рублёў, але разам з тым, зберажэнні 96 працэнтаў укладчыкаў не перавышаюць 10 тысяч рублёў. Гэта, як вы разумееце, невялікія грошы. Так што для большасці насельніцтва працэс прыватызацыі расцягнецца на больш-менш працяглы час. Я асабіста прыхільнік, так званай, мяккай прыватызацыі, ператварэння прадпрыемстваў у акцыянерныя таварыствы. Як гэта будзе адбывацца? Уявім сабе, што ператвараецца ў акцыянернае таварыства наш даволі эканамічна моцны Мінскі завод халадзільнікаў. Ён выпускае акцыі, якія па першым часе будуць належаць дзяржаве, якая паступова пачне іх продаж.

— Калектыву гэтага прадпрыемства?

— Законам гэта не прадугледжана, але камісія па прыватызацыі можа прыняць такое рашэнне.

— А ці не будуць пакрыўджаны гэтым тыя ж настаўнікі, якія навучаюць дзяцей рабочых гэтага завода. Урачы, да якіх звяртаюцца тыя ж рабочыя, работнікі гандлю, бытавога абслугоўвання, транспарту, нарэшце, журналісты, — на заводзе халадзільнікаў, упэўнены, газеты таксама чытаюць... Мне асабіста больш падабаецца, як усё гэта робіцца ў Расіі, дзе існуе свабодны продаж ваўчараў і акцый. Як ва ўсім цывілізаваным свеце. Дарэчы, такі парадак, мне помніцца, прапанаваў і народны дэпутат Беларусі Аламііеў...

— Адмоўныя вынікі свабоднага «хаджэння» чэкаў мы ведаем на прыкладзе Чэхіі, Славакіі і Расіі. А цяпер, я крыху ахалоджу ваш імпэт. Ведаеце, у якую капейчыну абышлося б нам само правядзенне прыватызацыі? У 15 мільярдаў рублёў. Трэба надрукаваць чэкі і акцыі, а на іх ідзе спецыяльная, вельмі дарагая папера, спатрэбіцца дадатковая камп'ютэрная тэхніка, інвестыцыйныя фонды, пасрэднікі, якія будуць распаўсюджваць акцыі. Толькі штаты ашчадных банкаў у рэспубліцы, мы падлічылі, трэба будзе павялічыць у сувязі з новым аб'ёмам аперацый на 3 тысячы чалавек.

— Пачуўшы ўсё гэта, каторы слабы чалавек скажа: а на ліха нам патрэбна ўся гэтая прыватызацыя, жылі без яе... Ці не на гэта разлічваюць кансерватары, якіх большасць у Вярхоўным Савеце? Нездарма ж кажуць, што ні ў адной з краін СНД так не працвітаюць антырэфарматарскія настроі, як на Беларусі.

— Я асабіста за рэформы.

— Дзякуй за шчырасць.

**Міхась ЗАМСКІ**

НА СКРЫЖАВАННІ ДУМАК

# ПАЛІГОН ДЛЯ БУДУЧЫНІ,

## *ці Зноў пра Адраджэнне, мову і лёс пакалення*

***Думаю, не памылюся ў сцвярджэнні: чым бліжэй мы будзем падыходзіць да мяжы, адкуль павінны пачынацца дзейсныя канкрэтныя крокі па адраджэнні роднага слова, тым большыя нападкі давядзецца зведваць гэтаму гістарычнай важнасці заканадаўчаму акту аб мовах. З'яўленне яго на свет ні ў якім разе нельга тлумачыць, як гэта часта робіцца, нейкай уступкай часу, модай нацыянальнага Адраджэння. Закону папярэднічалі шматлікія дыскусіі навукоўцаў, якія збіралі велізарную аўдыторыю людзей, неабыякавых да лёсу Бацькаўшчыны. Практычна на самім старце гарбачоўскай перабудовы, калі Беларусь толькі-толькі стала вызваляцца з-пад магутнай улады Цэнтра, адданыя нацыянальнай ідэі людзі адразу ж ушчыльную ўзяліся за выратаванне роднай мовы. Сёння іх высакародныя намаганні павінны падтрымлівацца на самым высокім дзяржаўным узроўні.***

Ва ўсе часы і эпохі дзейнасць такіх змагароў *нагадвала і нагадвае гарачую* і небяспечную працу пажарнікаў ці аварыйна-ратавальных камандаў, з якой ахвяры звязваюць сваю надзею на жыццё. Смеласцю і рашучасцю выратавальнікі здабываюць сабе вялікую павагу не толькі ад тых, каму яны не далі загінуць, але і ад тых, хто стаяў убаку, толькі назіраў за гэтымі падзеямі. Аднак у адрозненне ад такой усеагульнай павагі да членаў аварыйна-выратавальнай каманды актывісты нацыянальнага Адраджэння нейкі час могуць не мець такога аўтарытэту ў народзе з прычыны яго моцнай асіміляцыі, неразумення і абыякавасці да нацыянальна-патрыятычнага руху. Звычайна аўтарытэт і прызнанне прыходзяць да адраджэнцаў толькі з тае пары, калі масы адчуюць патрэбу свайго выратавання. А такое адчуванне *абавязкова ўзнікне, толькі трэба многа і* плённа папрацаваць у гэтым напрамку ўсім, хто ідзе ў шэрагах нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Пры самай цвёрдай упэўненасці ўсіх шчырых змагароў у рэальнасць гэтай высакароднай мэты падтрымка іх з боку дзяржавы, грамадства ніколі не будзе лішняй для іх. Магчыма, з-за адсутнасці такой многія з нас да канца не вераць у ажыццяўленне нацыянальнага выратавання ці проста абыякава, раўнадушна ставяцца да яго. Вялікая памылка заключаецца ў тым, што, вызначаючы свае пазіцыі ў дачыненні да нацыянальна-культурнага Адраджэння ў цэлым ці роднай мовы ў прыватнасці, людзі часта зыходзяць толькі з пазіцый сённяшняга абвальнага нацыянальнага нігілізму беларускага народа і яго гаротнага эканамічнага становішча, ніколькі не задумваючыся аб сваёй адказнасці перад тымі, хто ўжо склаў галаву ў змаганні за Адраджэнне, ці перад тымі, каму мы сваёй абыякавасцю, дакладней варожасцю да гістарычных традыцый і духоўнай спадчыны створым яшчэ больш цяжкія ўмовы для выжывання як самабытнага этнасу. Няўжо не бачна, што нашы сённяшнія маладыя пакаленні паводле нацыянальнай загартаванасці на цэлы парадак стаяць вышэй за сваіх аднагодкаў 70—80-ых гадоў? Цвёрда ўпэўнены, што па гэтым жа паказчыку маладыя пакаленні першага дзесяцігоддзя наступнага тысячагоддзя на гэтулькі ж перасягнуць сваіх папярэднікаў апошняга дзесяцігоддзя бягучага тысячагоддзя. Ім трэба ўжо зараз ствараць шырокі палігон для нармальнага нацыянальнага жыцця. Праціўнікаў сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння чакаюць такое ж суровае асуджэнне гісторыяй, горкае расчараванне, як гэта ўжо здарылася з тымі, хто ў канцы 20-х — 30-я гады ўзняў меч над галавой надуманых «нацдэмакратаў». Але калі розум праціўнікаў нашай першай беларусізацыі прасвятлеў ажно праз 20—30 гадоў, і яны пачалі ў газетах і часопісах публічных бібліятэк выразаць свае паклёпніцкія артыкулы, матэрыялы якіх для многіх беларускіх адраджэнцаў сталі адэкватнымі смяротнаму прысуду, дык сёй-той з цяперашніх апанентаў беларускай нацыянальнай ідэі ўжо праз два-тры гады пачаў рабіць форткі ў перыядычных выданнях, заматаючы свае сляды.

Не сумняваемся, што мы ёсць і застанёмся яшчэ на пэўны час адзінай у свеце нацыяй, якую нячысцік, невядома чаму, пакараў тым, што разбавіў досыць велізарнай колькасцю людзей, для якіх галоўным абавязкам з'яўляецца паліваць брудам сваю родную культуру і мову, не шанаваць гістарычную спадчыну. На правільны шлях яны ніколі не стануць самапасам. Тут не абысціся без мэтанакіраванай растлумачальнай, асветніцкай працы. Людзі з франтальна дэманціраванай нацыянальнай самасвядомасцю самі не паклапоцяцца аб адраджэнні, развіцці сваіх этнакультурных пачаткаў. Патрэбна дапа*мога і неадкладная. Працяглая адсутнасць* уласнай дзяржаўнасці, навязванне беларусу больш моцнымі суседзямі звычкі жыць паводле іх стандартаў у істотнай ступені паралізавалі дух незалежнасці, нястрымнае жаданне захоўваць, шанаваць і развіваць свае нацыянальныя традыцыі, што так уласціва ўсім без выключэння народам. Ізноў хочацца звярнуцца да паважанага суплямення з далёкага замежжа Масея Сяднёва, добрага знаўца нашай нацыянальнай псіхалогіі, які беспамылкова заўважае: «...беларус любіць, каб яго папхнулі, загадалі, каб беларускую мову нехта ўвёў дэкрэтна». Прыгадваючы свае юнацкія гады, ён працягвае: «...пачалася палітыка беларусізацыі, я загаварыў па-беларуску, пачалася палітыка русіфікацыі, я не пратэставаў, а *пачаў дапасоўвацца да гэтай палітыкі, а то* і сам уключыўся ў працэс гэтай русіфікацыі. ...Мы прывыклі, каб намі кіравалі, нам загадвалі. Сваёй волі мы не маем, ці што?»

Перарабіць наш нацыянальны характар не проста, хаця і трэба. А раз так, дзяржава з улікам такога характару сваёй карэннай нацыянальнасці не павінна пускаць на самацёк справу адраджэння роднай мовы беларусаў, а, наадварот, узначаліць яе. Пры любых аб'ектыўных і суб'ектыўных умовах няма альтэрнатывы нашаму сённяшняму беларускаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню. На худы канец развіваць, умацоўваць на дзяржаўным узроўні пакуль што да канца не разбураны беларускі нацыянальны асяродак неабходна не ў апошнюю чаргу яшчэ і таму, каб назаўжды адбіць ахвоту ў кагосьці з нашых усходніх ці заходніх суседзяў называць Беларусь спаконвечна сваімі землямі. Не заўтра, а сёння трэба Беларусь рабіць Беларуссю. Вось магістральны курс дзяржаўнай палітыкі.

Дамагчыся адчувальнага зруху ў нацыянальным жыцці вельмі цяжка будзе, а не дык і зусім немагчыма без актыўнага далучэння да гэтай справы прэсы, радыё і тэлебачання, і ў першую чаргу, што знаходзяцца на ўтрыманні дзяржаўнага бюджэту, асабліва радыё, якое мае такую велізарную колькасць спажыўцоў. Як і дзесяць-дваццаць гадоў таму, тут пераважаюць рускамоўныя перадачы, патокамі ляцяць у эфір надакучлівыя беларуска-рускамоўныя дыялогі. Нават у разлічаных на карэннае насельніцтва перадачах з яскрава вызначанай адраджэнскай тэматыкай дапускаецца такое, што з 5—10 музычных, песенных уставак не прагучыць аніводнай нацыянальна беларускай. Пануе толькі рускае. Вось тут і разбярыся, у якой жа краіне мы, беларусы, жывём? Няўжо ў Расіі? Адмоўна адказаць на гэтае пытанне дае падставы толькі зрэдку чуты беларускі голас вядучых перадач. Але і яны часта здраджваюць роднаму слову.

Вось так «фармуе» нашую этнічную самасвядомасць квазібеларускае, квазінацыянальнае радыё. Не раз думалася, каб на радыё запрасілі радавую даярку-беларуску ці стрэлачніцу, яны абавязкова пазбягалі б такога частага размывання тэкстаў беларускамоўных перадач чужымі песнямі. Многім жа прафесійным радыёжурналістам перашкаджае ў гэтым высокі ўзровень адукацыі, памножаны на нацыянальны нігілізм.

Падобнае, як у прэсе, на радыё, тэлебачанні, назіраецца і ў іншых сферах, дзе закладваюцца асновы, адбываецца фармаванне нацыянальнай самасвядомасці. Адсюль прычыны нашага франтальнага вымірання як самабытнага беларускага этнасу. Ва ўсіх бедах абвінавачваць толькі сам народ ніхто не мае права.



*Фота У.ПАНАДЫ*

Ажыццёўленыя апошнім часам захады па далучэнні прэсы, радыё і тэлебачання да нацыянальнай праблемы зусім не даюць падстаў для супакаення. Не перабольшу, не згушчу фарбаў, калі скажу, што зробленае і тое, што робіцца шматлікім калектывам супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі па нацыянальна-культурным Адраджэнні, вельмі далёка не адэкватна таму, чаго ўдалося некалі дасягнуць гэтай катэгорыі творчай інтэлігенцыі па дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. У мінулым прэсай, радыё і тэлебачаннем быў узяты такі імклівы разбег па пачварнай інтэрнацыяналізацыі нашага духоўнага жыцця, што ён па інерцыі яшчэ і сёння робіць страшэнна разбуральныя абароты, бязлітасна падбіраючы пад сябе кволыя парасткі беларускасці. Хто мог падумаць, што з ажыўленнем нашага нацыянальнага руху, дасягненнем Беларуссю юрыдычнай дзяржаўнай незалежнасці, такую бліскучую перамогу на яе тэрыторыі атрымае рускамоўны перыядычны друк? Такое мо не снілася нават асобам з яскрава акрэсленымі імперскімі замашкамі. І ўсё гэта не ў малой ступені атрымліваецца таму, што мы зусім не хочам вучыцца ад іншых краін, якія некалі вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці і паспяхова вырашылі праблему свайго нацыянальна-культурнага адраджэння, прычым не праз *арганізацыю рознага роду рэферэндумаў*, а на аснове цвёрдай дзяржаўнай палітыкі, не праз афіцыйнае двухмоўе, а на аснове надання выключна вялікай, неабмежаванай сацыяльнай ролі роднай мове карэннага насельніцтва. Дзяржава ў такіх краінах уважліва сачыла не толькі за тым, як сродкі масавай інфармацыі асвятлялі вузлавыя пытанні ўнутранага жыцця, але і якая мова дзеля гэтага выкарыстоўвалася. Сусветная практыка не дае такога прыкладу, як Беларусь, дзе б перыядычны друк на чужой мове ў некалькі разоў перасягаў нацыянальны. Наіўна думаць, што ў такіх умовах можна выратавацца ад асіміляцыі.

Хвалюе і яшчэ адно пытанне, паспяховым вырашэннем якога беларусізацыя 20-х гадоў так ушчыльную змагла наблізіцца да сваёй запаветнай мэты. Гэта — актыўнае падключэнне небеларусаў да нашай нацыянальнай ідэі. Сёння ў нас неяк вельмі ж слаба чуваць голас прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў, рускамоўнага друку ў абарону беларускай культуры і мовы. Наадварот, старонкі апошняга часта адводзяцца тым аўтарам, якія адкрытым тэкстам ці ў завуаляванай форме вядуць змаганне з духоўнай спадчынай, родным словам беларуса. Ствараецца ў пэўным сэнсе слова супярэчлівая сітуацыя: кормімся з адной зямлі, дыхаем адным паветрам, але хтосьці з нас стаіць за нацыянальна-культурнае Адраджэнне Бе*ларускага краю, а камусьці яно проста* вочы выядае. Усё гэта вынікі колішняй антыгуманнай савецкай нацыянальнай палітыкі, навязанага нам Цэнтрам і актыўна падтрыманага мясцовай наменклатурай курсу на інтэрнацыяналізацыю беларускай культуры. Не толькі шэраговая, але ў значнай ступені і элітарная частка рускамоўнага насельніцтва саюзных рэспублік былога СССР развучылася паважаць іх нацыянальную культуру і мову. А ў мінулым жа ўсе вялікія людзі з незвычайнай пашанай ставіліся як да роднай, так і моваў іншых, найперш суседніх, народаў. Уражвае ў гэтых адносінах армянскі паэт-ашуг Саят-Нова /Аруцін Саядзян/, які жыў у 1712—1795 гадах. У той час, як сярод армян, грузін і азербайджанцаў не спыняліся сур'ёзныя міжэтнічныя спрэчкі, што не раз прыводзіла да вялікага кровапраліцця, ён нібы ў мэтах памірэння, збліжэння гэтых народаў, пісаў вершы на іх мовах. З прыемнасцю зазначу, што ў тыя гады і пазней былі такія людзі і на Беларусі як сярод яе карэннага, так і *некарэннага насельніцтва. Вельмі важна* было б гэтай гуманістычнай тэндэнцыі даць жыццё і ў нашыя дні. У сучасных спецыфічных умовах Беларусі найбольш пажадана, каб актыўна і свядома на бок яе нацыянальна-культурнага Адраджэння станавіліся асобы рускага паходжання, бо менавіта іх культуру і мову пад рознымі падставамі стагоддзямі навязвалі беларусам, разбураючы гэтым іх уласны этнакультурны патэнцыял.

**Леанід ЛЫЧ**,
**вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ, доктар гістарычных навук**

# «ЗАЗІРНУЦЬ У ГЛЫБІНЮ...»

## *«Бібліятэка часопіса «Маладосць»: сустрэча пятая*

*Святаслаў Макаль.*
*Дзверы насцеж. Вершы.*
*Мінск, 1992*

Малады паэт Святаслаў Макаль падкрэслена медытатыўны, рацыяналістычны. Філасофія кругабегу жыцця, шматіснасць повязі чалавека са светам, яго бытаванне ў часе і прасторы — такі асноўны кірунак разважанняў аўтара кніжкі «Дзверы насцеж». Думка С.Макаля імкнецца пазнаць сутнасць з'яў рэальных і экзістэнцыяльных, у полі яго зроку — звыкла-будзённае і вечнае, касмічнае. Словам, малады аўтар прэтэндуе на годнасць паэта-філосафа, жадае выйсці на бальшак беларускай медытатыўнай паэзіі, які пракладалі нашы класікі і вядомыя таленавітыя сучаснікі, заклаўшы глыбокія традыцыі. Рух думкі ў С.Макаля празаізаваны, а сам верш заснаваны на рытмізацыі радка, падабенстве і паўторы сінтаксічных канструкцый, унутраных гукаспалучэнняў. Паэт піша, такім чынам, свабодным вершам ці, інакш кажучы, верлібрам:

Гледзячы ў бінокль,
можна ўбачыць
зоркі...

Гледзячы ў бінокль,
можна не заўважыць,
што ў цябе пад нагамі.

Па гэтых радках няцяжка адчуць, што С.Макаль выказваецца ў духу разанаўскіх медытацый, імкнецца, каб умоўна-асацыятыўная вобразнасць дала далейшы накірунак чытацкаму роздуму, выклікала ў нашым успрыманні супастаўленні, нейкія паралелі. Думкі-параўнанні, асацыяцыі і сапраўды ўзнікаюць: захапляючыся планетарным, касмічным, мы часам топчам хараство, не зважаем на жывыя галасы зямлі. Маладому аўтару тады-сяды ўдаецца наблізіцца да быційна-одумнага разумення жыцця і з'яў, як, да прыкладу, у вершах «Ноч цёмная...», «Астраномія» і некаторых іншых. Але надараецца гэта, калі казаць без скідкі на маладосць, даволі рэдка.

У мысленні С.Макаля пануе сухая абстрагаванасць, ён выцясняе з радкоў усялякую эмоцыю, і таму ад іх «вецер даносіць холад». Верш «Самалёт ...», на мой погляд, гэта павярхоўная і невыразная па думцы пазза: банальна гучыць параўнанне самалёта і птушкі, падабенства палёту людзей і птушак. Да сапраўднай інтэлектуальнасці тут вельмі далёка:

Самалёт
падобны на птушку —
такія ж крылы і хвост.

Калі людзі ляцяць,
яны адчуваюць сябе
птушкамі.

Але калі самалёт пакідае
узлётную паласу,
птушкі напалохана разлятаюцца.

Хутчэй за ўсё малады аўтар стварыў празаізаваную замалёўку. Вершам «Гадзіннік», «Зімой...», «Маленькага...», «Запалка» і іншым бракуе глыбіні, напружанасці філасофска-паэтычнага светабачання. Бо не сакрэт, што чым мацней, праніклівей паэт бачыць і выяўляе свет, жыццё, з'явы ў супрацьлегласці, дысгарманічнасці, парадаксальнасці, тым ён больш філасафічны, афарыстычны, індывідуальна-непаўторны. Абсалютна аморфны, бяскрылы думкай верш «Таблетка», адчуваецца, што малады паэт збіваецца на драбнатэм'е, займаецца ўяўным філасофстваваннем:

Доктар выпісаў рэцэпт —
і тры разы ў дзень
трэба яе прымаць,
горкую, пякучую таблетку.

Таблетка ахвяруе ўсім,
што мае —
сваёй гаючай злоснай гаркатой.
Таблетка ахвяруе сабой —
растае...

А мне лягчэй.

Што гэта? Філасофія мыслення ці версіфікаваная гульня ў інтэлектуалізм? Засмучае, што С.Макаль не імкнецца жывапісаць пачуццямі, вобразамі, словамі-фарбамі, не чуе музыку, а стварае ўсяго вобразы-дэкарацыі, вобразы-атрыбуты. Радок яго лаканічна-сухі, нават нейкі адрывісты, тэлеграфны ці што, у ім адбіваецца урбанізаваны, адчужаны склад мыслення чалавека гарадской цывілізацыі. Нават у вершы «Памёр чалавек...», назва якога гаворыць сама за сябе, малады паэт «холадна кінуў погляд», ён нібыта канстатуе, паведамляе, сведчыць замест таго, каб з болем, хвалююча паказаць, раскрыць драматызм чалавечай смерці. Можа, я і памыляюся, але перакананы, што трагізм, драматызм чалавечага лёсу вымагае эмоцый і нераўнадушша.

Адзін з любімых вобразаў С.Макаля — трава. Адчуваецца, што тут малады аўтар захоўвае эстэтычную пераемнасць з Макалём-старэйшым, які ўстурбавана пісаў, што «ў травы забіраюць правы» і вітаў «зялёны бунт зялёнае травы». У верша «Белым-белым...» трава — неадольная сіла прарастання жыцця і хараства, якой не страшнае чорнае пакрывала асфальту. Аднак у творы чуваць паныла-сузіральнае апавядальніцтва, жывая паэзія думкі тут маўчыць, як не адчуваецца і філасафізму мыслення. Увогуле, хіба можа ўразіць, крануць розум ці сэрца агульнае, абстрактнае, прагматычна-халоднае? З'яўляецца часам адчуванне, што верш выдала нейкая машына-робат:

Маладая трава
юнацтва.
У юнацтве так шмат любві —
любві да многіх і многага...
Любоў праз любоў
і любоў праз пагарду...

Любіце многіх і многае.
Не забывайце юнацтва.
Любіце траву.

У асобных вершах выяўляецца алагічнасць думання, звычайная бяссэнсіца, а не нейкая там эмпірыка ці дыялектыка, аб чым сведчыць, напрыклад, верш «Снег і дворнікі»: «А калі б яны не мялі, снег бы падаў сам на сябе».

Што ж, С.Макаль выбраў нялёгкі жанр паэзіі. Выдаткі, як бачым, на яго шляху ёсць сур'ёзныя, і таму хацелася б пажадаць маладому аўтару як мага хутчэй пазбавіцца псеўдаінтэлектуальнасці, недапаэзіі, а тварыць, жывапісаць глыбокую і адметную светаасэнсавальную філасофію быцця.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

*/Заканчэнне будзе/*

З ЛЁГКАЙ рукі айчыннай крытыкі пакаленне, да якога належыць Юрась Свірка, пачало значыцца ў літаратуры як «пакаленне, апаленае вайной». Хоць страшнага полымя яе, як мне здаецца, хапіла і нам, хто ішоў услед, пяццю—дзесяццю гадамі пазней. Толькі мы той жа крытыкай былі ахрышчаны як «філалагічныя». Згаджаючыся і не згаджаючыся з такімі азначэннямі, мушу зазначыць, што ішлі мы ў жыццё і ў паэзію ледзь не аднымі шляхамі, адчуваючы добрую суплечнасць, згоду і паразуменне. Хоць была разбежка ў гадах і розніца ў лёсах, але ўзроставай мяжы, як сёння здаецца, ніколі не існавала.

У 1959 годзе Юрась Свірка выдаў сваю першую кнігу паэзіі «Шэпчуцца ліўні». А я хадзіў яшчэ ў пачаткоўцах і з цяжкасцю мог адрозніваць добрае ад дрэннага. Але ўжо сама назва падказвала тады сэрцу, што бяру ў рукі кнігу чалавека таленавітага. Свежае дыханне роднай прыроды і той лагодны перашэпт ліўняў душой адчуваліся вельмі выразна.

Напачатку пазнаёміла нас паэзія, а жыццё потым паяднала добрым сяброўствам. Недзе з дзесятак гадоў мы сядзелі з Юрасём Свіркам у адным рэдакцыйным пакоі, працуючы на Беларускім радыё, дасылаючы штодзённа праз эфір на абсягі рэспублікі словы айчыннай паэзіі. Праца на радыё — не зусім удзячная для пісьменніка. Трэба ўвесь час круціцца, наталяючы ненастомны апетыт мікрафона. Мы па-добраму зайздросцілі калегам, якія ўладкаваліся ў нешматлікіх часопісах, і суцяшалі сябе тым, што добрая большасць нашых літаратурных сабратоў спачатку прайшла ўсё ж праз сцены радыё.

Ды і сустрэч, знаёмстваў, дзякуючы радыё, было нямала. Усе, ад класіка да пачаткоўца, хацелі быць

# ШЧОДРЫ ЦВЕТ

## *Па старонках часопіса маладых літаратараў Беларусі «Першацвет»*

Любая добрая справа пачынаецца з ініцыятывы, а для таго, каб яна ўзнікла, патрэбен чалавек, які б не толькі загарэўся нейкім новым пачынаннем, а і адразу паверыў у яго неабходнасць, а больш таго — у перспектыўнасць. Праўда, часам бывае і так, што, каб ажыццявіць важную задуму, неабходна падрыхтаваць пад яе глебу.

У дадзеным выпадку акурат спрацаваў такі варыянт. І пачалося гэта некалькі гадоў назад, калі ў рэдакцыі «Чырвонай змены» з'явіўся новы літаратурны кансультант Алесь Масарэнка. Па традыцыі пад сваю апеку ўзяў ён і літаратурнае аб'яднанне «Крыніцы», якія, шчыра кажучы, тады ледзь бруілі.

А.Масарэнка ўзяўся за справу, закасаўшы рукавы. І праз месяц-другі аказалася: самая маладая рунь у нашай літаратуры кусціцца, пры ўважлівым стаўленні да яе можа даць дружныя ўсходы. А ўвага — гэта найперш магчымасць пачаткоўцам друкавацца. Новы літаратурны кансультант дамогся, каб старонкі «Крыніцаў» выходзілі штомесячна. Калі ж «Чырвонка» стала штотыднёвікам, «Крыніцы» пры той жа перыядычнасці займалі ўжо сапраўды старонкі — дзве і больш. Вершы, апавяданні, творы для дзяцей, рэцэнзіі... Дзе яшчэ можна было спаткаць такое? Толькі ў «Чырвонцы».

А.Масарэнка па сутнасці ператварыў рэдакцыю ў ... літаратурна-дыскусійны клуб, які збіраўся кожны панядзелак. На пасяджэннях яго і ўзнікла думка аб сваім часопісе. Для самых-самых маладых. Былі і скептыкі. Дапусцім, выданне з'явіцца. А што далей? Збіраць пад вокладку тое, што адсейваецца «Маладосцю», «ЛіМам», «Полымем»? А пра маральны бок справы падумалі? Ну, надрукуецца чалавек раз-другі — дзе папраўляць, дзе скідку на ўзрост зробяць, а пасля? Можа ж стацца, што мінецца юны ўзрост, і не атрымаецца з сённяшняга рамантыка ні паэта ні празаіка. Навошта ж, у такім разе, траўміраваць неакрэплую душу?

Слухаў А.Масарэнка падобных добразычліўцаў, усміхаўся, але ад свайго не адступаўся. Прымаў усе магчымыя захады. Калі не знайшоў падтрымкі ў афіцыйных структурах, звярнуўся да дырэктара газетна-выдавецкай фірмы «Белая Русь» /ён жа і рэдактар «Чырвонай змены»/ Уладзіміра Бельскага. Заснавальнікам новага часопіса і сталі «Чырвоная змена» і «Белая Русь». Знайшлі сродкі, каб выпусціць першы нумар «Першацвета». Адбылося гэта, як вядома, у кастрычніку мінулага года.

Другога нумара, праўда, давялося чакаць даўгавата, з'явіўся ён толькі ў студзені 1993-га. І стаў адпаведна першым у сёлетнім годзе. Нядаўна прыйшоў да чытача і лютаўскі. Са спазненнем прыйшоў, ды першацветаўцы не падаюць духам, імкнуцца навярстаць упушчанае. Хоць і нялёгка гэта даецца: пакуль што выданне рабілася, як мы любілі нядаўна казаць, на грамадскіх пачатках. Але спадзяванні на будучае ёсць — падтрымала «Першацвет» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, часопіс уключаны ў лік выданняў, якія атрымліваюць дзяржаўную датацыю.

Зрэшты, усё гэта так званага шырокага чытача наўрад ці хвалюе. Чытачу падавай часопіс — цікавы, змястоўны. Які б сведчыў, што літаратура наша папаўняецца талентамі, што ў ёй з'яўляюцца новыя імёны, што ідзе працэс нашага адраджэння, расце нацыянальная свядомасць. Дык вось, калі чытаць «Першацвет» непрадузята і разам з тым не робячы скідак на маладосць, нельга не адзначыць: часопіс варты ўвагі!

Гэта засведчыў яго першы нумар, на другую старонку вокладкі якога вынесены вядомыя словы М.Гарэцкага: «Мы — рунь, якая прабіваецца страшэннымі дажджамі і халадамі, але мы яшчэ некалі, як спелыя каласы на добрай ніве, закрасуем на роднай зямлі нашай». Ёмка, дакладна сказана пра маладыя таленты, якія гатовы, нягледзячы ні на што, выстаяць, акрыяць, акрэпнуць. Талент жа любіць і павагу, і разуменне, і не дазволіць, каб яго хрысцілі пачынаючым, бо ён ці ёсць, ці яго няма.

Ці не пра гэта «Трыялет» А.Брусевіча:

Паэтаў пачынаючых няма,
як зорак пачынаючых ці неба.
Казаць вось так не варта і не трэба.
Паэтаў пачынаючых няма.
Тлумачыць я не буду, бо дарма.
Хутчэй з насення вырастае дрэва.
Паэтаў пачынаючых няма,
як зорак пачынаючых ці неба.

Падборка А.Брусевіча пазначана жаданнем сцвердзіць сябе. І гэта выяўляецца і ў тым, што малады паэт не баіцца пісаць аб тым, пра што і сёння яшчэ не надта прынята пісаць /«Эміграцыя»/, і ў жаданні ўжо цяпер, напачатку, задумацца над сакрэтамі самой творчасці /«Тэма»/, і ў спробе пазбавіцца маральнай абыякавасці /«Я смяяўся б з сябе...»/.

Аднак відавочнае і іншае: калі голас праразаецца, хочацца як мага хутчэй паспрабаваць яго ў розных «мелодыях». Магчыма, для станаўлення голасу гэта і няблага, а для чытача? Чытач, спрактыкаваны ў паэзіі, наўрад ці ўспрымае нешта такое: «У душы чамусьці пуста, ў сэрцы востры нож. Я цалую твае вусны, прыгажуня ноч. Абдымаю стан дзявочы, бы нябесны дар, і ўсміхаецца мне ў вочы твой смуглявы твар». Як кажуць, ці трэба выдаваць за адкрыццё з'яўленне зорак на небе?

Кацярына Мяшкова, па ўсім відаць, чалавек назіральны, адсюль у яе творах і нечаканасць параўнанняў: «Дарэмна спечаны праснак падобны на малы спанечнік», «... каханне ўдзень выглядае самлелым і збірае ракушкі ўзбярэжжа». З гэтай назіральнасці і нараджаюцца малюнкі, якія ўражваюць і запамінаюцца. Як, напрыклад, у вершы «Мірскі замак»:

Зайздрасць возера
чырвоным вежам,
бы захада зярно
яго бянтэжыць.
Гайдае свет вада
з адбіткаў мура,
і галерэі дах
размыта-хмурны.

Возера Мірскага замка і прывід Чорнай дамы /«Чорная дама Нясвіжа»/... Яна ж, загадкавая пані Бася, прысутнічае і ў другім вершы — «Нясвіж»... А поруч — паўднёвыя матывы: мора, сосны, хваляванні і перажыванні лірычнай гераіні... К.Мяшкова адчувае слова, умее стварыць адпаведны настрой. Хаця, думаю, часам відавочна і жаданне падацца арыгінальнай там, дзе гэта ніяк не атрымліваецца. Не ведаю, як іншым, а мною такая вось паэтычная эквілібрыстыка не вельмі ўспрымаецца:

На нітках суровых пахмурнага неба
напісаны сосны птушыным перкам.
Забыты электрык вышыннага крэпа —
выразнага суму мядзяная мерка.

*/«Сосны»/*

Зрэшты, без пошуку, эксперыменту наўрад ці можна адчуць, на што ты здатны. А што талент К.Мяшковай шмат абяцае, сумнявацца не даводзіцца.

Увогуле, першацветаўскія аўтары пачынаюць упэўнена. І творчыя арыенціры ў іх акрэсленыя. Калі і схіляюцца перад папярэднікамі, дык перад тымі, чые заслугі, так бы мовіць, відавочныя. Вядома ж, у гэтай кагорце адно з першых месц займае Я.Купала. Верш М.Віча «Нямыя словы», прысвечаны народнаму песняру, — гэта па сутнасці і твор пра аднагодкаў аўтара — цяперашніх дваццацігадовых. Яны ж сам-насам і са сваімі трывогамі, сумненнямі, і з ім — Я.Купалам. І гэта не паляпванне класіка па плячы, а патрэба знайсці суразмоўніка, які б зразумеў, і ўсведамленне ўдзячнасці яму.

А яшчэ, што самае галоўнае, разуменне, якую цяжкую ношу бярэ на свае неакрэплыя плечы кожны, хто ўваходзіць у літаратуру, у якой ужо быў Я.Купала: «Так цяжка жыць, кахаць... пасля Яго. А гаварыць — яшчэ цяжэй. Пакутна сваю душу — і кідаць у агонь ягоных словаў вечных і магутных». І вось выснова:

Таму маўчу я. Мову адняло.
Не, гэта Ён адняў у вуснаў мову.
Між намі рэха зорнае лягло.
І да Яго — мае нямыя словы:
— Ты іх пачуй і да мяне прыйдзі
па рэху іх, як па слядах падковы.
Даруй нямоту —
і агаласі
мае нямыя спраўджаныя словы!

Паэзія — не мною сказана — заўсёды пачынаецца са шчырасці, а яшчэ з непасрэднасці. У такім разе часам даруеш аўтару знаёмасць матываў, калі бачыш, што ад душы ўсё гэта. Таму і прыносяць задавальненне сустрэчы з першароднасцю гэтыя нехітрыя радкі Н.Русецкай /1993, N 2/: «Хрусткая скарынка з тоненькага лёду. Люты п'е са студні сінюю ваду. Праз марозны вечар, праз завеі подых кожны дзень вяртаюся я ў



ВІНШУЕМ!

***Як хутка і няўмольна бяжыць час. Здаецца, зусім нядаўна нашаму калегу і таварышу Юрасю Свірку было 50, а ўчора яму споўнілася — 60. Нашы віншаванні і пажаданні яму нязменныя: доўгіх гадоў табе, дарагі Юрась Мікалаевіч, моцнага здароўя і новых твораў!***

# КАБ ВЕРШАМ ДУША БУНТАВАЛА

пачутымі, а таму ўсё новае неслі да нас. Быць першым чытачом твора — гэта таксама адчуванне не абыякое, асабліва калі твор напісаны рукою майстра. Праца на радыё была і своеасаблівай літаратурнай вучобай. Шмат чаму вучыўся я ў яго, старэйшага таварыша Ю.Свіркі.

Дзесьці напрыканцы 1967 года ў выдавецтве «Беларусь» выйшла з друку яго кніга вершаў «Баравіна». Сёння, перагортваючы яе, захацелася паўтарыць услед за аўтарам радкі, якія павінны быць сугучнымі кожнаму сэрцу і сёння:

Хачу прачнуцца я
Праз сотні год,
Паслухаць траў і ветру шалясценне,
Хачу я толькі на адно імгненне
Паслухаць,
Як жывеш ты, мой народ.
......................
Калі пачую:
Ты жывеш, народ
/Па голасе пазнаю беларусаў/,
Тады спакойна на пагост вярнуся
І зноў засну —
На сотні тысяч год.

У «Баравіне» — а яна была ў аўтара трэцяй кнігай — Ю.Свірка паўставаў перад чытачом абноўленым і ўзмужнелым, у яго паэтычным голасе было шмат трывогі, болю за перажытае і за наша неўладкаванае, не надта шчаслівае жыццё. За радком адчувалася жаданне ачалавечыць, сагрэць сваёй любоўю тое, што пазбаўлена ўвагі і спагады:

Няхай мне прысніцца:
Для сэрца — нядзеля,
Вачам — далячыні,
Дарогі — нагам...
Кладу пад падушку
Любоў і надзею,
Як клалі вайной партызаны наган.

Ніколі не пешчаны крытыкай, паэт і не чакаў асаблівай хвалы сваёй бясспрэчнай удачы. Тым не менш кніга была заўважана і належна ацэнена.

Узыходжаннем на новыя вышыні сталі для Ю.Свіркі кнігі «Крэўнасць», «Аўтограф», «Біяграфія памяці». Сталасць прынесла і сваё балючае адчуванне адказнасці за слова і за народ, ад імя якога заўсёды гаворыць паэт. У кнізе «Аўтограф», звяртаючыся да маладзейшых, Ю.Свірка напіша:

Калі ты сын свайго народа,
Скажы ўсю праўду пра яго.
І не чакай узнагароды,
Не адступайся ад свайго.

Гэта радкі — сямідзесятых гадоў. Праўду гаварыць тады было няпроста, а то і небяспечна, даводзілася хаваць яе ў падтэкст. Але ў падтэксце праўдзе было няўтульна, і яна сама сябе выдавала. Мы яскрава бачым яе ў такіх вершах, як «Ручай», «Запрашэнне ў цырк», «Дым», «Нешта думае ў дарозе мой буланы» і інш.

Невыпадковай здалася мне назва кнігі паэта «Біяграфія памяці». У памяці ёсць свая біяграфія — адразу хочацца пагадзіцца з аўтарам. Ва ўсякім разе ёсць яна ў пакалення Юрася Свіркі. Паэты, як заўважана, наогул любяць гэта слова — памяць. Але калі для некаторых, асабліва маладых, паняцце гэта падчас абстрагаванае, мала суаднесенае з жыццём, перажытым, то ў Ю.Свіркі — яно жывое звяно, без якога не ўявіш яго паэзіі. Дваццаць гадоў назад паэт напісаў:

Відаць, таму,
Што мы раслі ў вайну,
Відаць, таму,
Што часта галадалі, —
Прарочым вершам
Толькі чысціню
І патрабуем,
Каб у цэль стралялі.

Радзіма Ю.Свіркі — партызанскі раён Бягомльшчына. Адсюль родам і памяць. Боль, што пасяліўся калісьці ў дзіцячым сэрцы, з гадамі не слабее, а наадварот, узмацняецца. Ці не таму і вершы, народжаныя ваеннай памяццю, ледзь не заўсёды «страляюць у цэль».

Хацелася б тут прыгадаць творы з ранейшых кніг, такія, як «Лясная лазня», «Балада шкадавання», «Балада пра танец» і пазнейшыя — «Сон партызанскай удавы», «Сястры, былой нявольніцы», «Зорка», «Балада пра неўміручасць».

Спынімся на апошнім з іх. Чытаючы яго, так і бачыш спалоханага хлопчыка-ўцекача, што ратуецца ад азвярэлых карнікаў. Гарыць у хаце маці, бацька, родныя. А ён паўзе па баразне да могілак, дзе пахаваны дзед і бабуля:

Няхай, што яны нежывыя,
Свае ж не пакінуць яго.

А наогул Ю.Свірка паэт тэматычна разнастайны. Я не магу не прыгадаць яго шчымлівых радкоў пра Радзіму, маці, пра родную мову і спрадвечнае, непаўторнае чалавечае пачуццё кахання. Ну а вёска, відаць, найгалоўнейшая паэтава тэма. Аднойчы ён нават скажа:

Заглядаю я ў вёску, як у слоўнік,
Каб упэўніцца, што правільна пішу.

З гадамі, звяртаючыся да адных і тых жа тэм, кожны паэт непазбежна паўтараецца. Можа, таму Ю.Свірка шмат увагі аддае вершам падарожнага плана. Убачанае ўпершыню, свежым зрокам, заўсёды засцеражэ цябе ад паўтору, падорыць нечаканыя асацыяцыі. І большасць яго падарожных вершаў па-сапраўднаму хвалююць і ўражваюць праўдзівасцю і свежасцю бачання рэчаў.

Я не памятаю нейкіх крызісных момантаў у творчасці Ю.Свіркі. Піша ён непаспешліва і роўна, як вядзе пракос. Гэта прыроджаная, чыста сялянская непаспешлівасць і грунтоўнасць. Такі ён і ў жыцці. Неаднойчы бачыў яго дачную гаспадарлівасць на Лысай гары, добра ўяўляю яго з касою ў лузе ля роднай Маргавіцы і ў цешчыным Заельніку пад Бабруйскам.

У зборніку «Аўтограф» адшукаліся такія радкі:

Я пасля новай кніжкі,
Як ніва пасля жніва.

Я рад, дарагі Юрась Мікалаевіч, што твая паэтычная ніва шчодрая. Вось і нядаўна пабачыла свет новая і важкая кніга тваёй паэзіі «Узаемнасць». У друку з'явіліся новая паэма і вершы. І не згадаў яшчэ я тваіх шматлікіх перакладаў.

Хай жа заўсёды «ў душы абуджаецца жаданы для вершаў бунт».

**Казімір КАМЕЙША**

---

сваю вясну». А вясна ж у Н.Русецкай, як відаць са здымка /дарэчы, чаму б не прадстаўляць аўтараў, прыводзіць хоць якія-небудзь біяграфічныя звесткі пра іх?/, толькі-толькі пачынаецца. Вясна жыцця, вясна пачуццяў. Ці не таму яе лірычная гераіня такая даверлівая і адкрытая, не хавае сваіх пачуццяў:

Зноў чакаю я залевы,
той нястрымана-пяшчотнай,
што шукае сярод лета,
сярод цішыні спякотнай.

Абдымае, лашчыць цела,
б'е агаленыя плечы ...
Божа, як бы я хацела
да цябе прыйсці залевай!

Але, думаецца — не ў сувязі з гэтым, праўда, — што даверу павінна быць мяжа. Самакапанне лірычнага героя /найчасцей самога аўтара/ ва ўласных перажываннях і пачуццях цікавае толькі ў тым разе, калі за гэтым — імкненне разабрацца ў складанасці быцця, а не звычайная канстатацыя: як раблю, так і пішу.

Наўрад ці нясуць нешта, акрамя звычайнай інфармацыі, такія радкі: «Не прагну болей я змагання — сяджу адзін і п'ю Агдам». /1993, N 2/. Ці такое гэтага ж аўтара:

У печ «камсамольскі» кінуць,
Партрэт Гарбачова — таксама,
Ільіч хай у полымі згіне,
І з імі — пачвара з вусамі.

Так і хочацца спытаць: ну і што? А нехта, «разумнік», кіне ў печ нумар «Першацвета». Што гэта будзе? Стан яго душэўных ваганняў ці звычайнае бескультур'е?

Як ні дзіўна, аднак сяму-таму з маладых аўтараў падобнае «ніштоканне» падабаецца. Можа, яны бачаць у гэтым нешта новае? Не ведаю, але ж адна з аўтарак не сароміецца прызнацца: «Спяваю пра нішто, як гавару без логікі і без дакладных сказаў» /1993, N 1/.

Мабыць, логіка ўсё ж патрэбна. Хоць якая-небудзь. Бо паэзія без логікі — гэта не паэзія. І справа не ў тым, традыцыйная яна ці найсучаснейшая. Ёсць жа ўвогуле вобразнае мысленне, адсутнасць якога нічым не кампенсуецца. Гэта як напамінак тым, хто гатовы бачыць у звычайных заўвагах ледзь не ўшчамленне яго права пісаць па-свойму...

Не адмаўляючы набыткаў маладых паэтаў /а назваць можна яшчэ добры дзесятак імён/, перакананы: у першых трох нумарах лепш прагучала проза. І па прычыне яе досыць высокага ўзроўню і па прычыне таго, што ці не ўсе маладыя празаікі асвойваюць той тэматычны пласт, які да нядаўняга часу знаходзіўся па-за літаратурай.

Вітаўт Чаропка /1993, N 1/ выступіў з аповесцю «Геній смерці», зусім для яго нечаканай, бо не гістарычная праблематыка закранаецца ў творы. Герой яго Арыэль нечакана пераконваецца, што ён валодае здольнасцю распараджацца чужымі лёсамі. Дастаткова яму пажадаць непрыяцелю зла, як той адразу памірае, ці недарэчна гіне. А паколькі Арыэль у асабістым жыцці няўдачнік, адчувае пастаянны дыскамфорт, ён жадае падобным чынам змагацца за справядлівасць, уладкоўваецца ў спецыяльнае ведамства, якое, стоячы на ахове дзяржаўных інтарэсаў, знішчае няўгодных людзей. Як бачым, рэальнае і ілюзорнае суседнічаюць. Здавалася б, герой В.Чаропкі дамогся свайго. Але адбываецца тое, што ў рэшце рэшт і павінна было быць: «Ён, геній смерці, і сам стаў ахвяраю свайго зла». Загінула любая дзяўчына Ніта, якую ён у хвіліну роспачы пракляў.

Шкада, што аповесць месцамі перагружана непатрэбнымі падрабязнасцямі, але ў цэлым твор атрымаўся. Твор аб месцы чалавека на зямлі, аб тым, хто ён у гэтым, такім складаным і супярэчлівым свеце: пясчынка, якой можа распараджацца любы выпадак, ці ўсё ж асоба, здатная адказваць за ўласныя ўчынкі.

А які складаны лёс паўстае ў апавяданні Л.Шчэрбы «Звалка» /1993, N 1/?! Герой твора — «былы муж, былы бацька, былы сябар, былы навуковы супрацоўнік, былы... А зараз? А што зараз. Цяпер ён нават не памятае, калі яго апошні раз Іванам Паўлавічам звалі. Стары, бадзяга, бомж — самыя мяккія словы».

Жыццё цяпершняга бомжа прасочваецца падрабязна, але гэта не звычайная інфармацыйная насычанасць, а заглыбленне ў характар. І не корпанне ў лёсе няўдачніка, а спроба псіхалагічнага аналізу канкрэтнага лёсу. Збег абставін — быццам наканаванасць, якая праследавала заўсёды Івана Паўлавіча. Мяккага, душэўна шчодрага чалавека, яго ніхто не разумеў і нікому ён не быў патрэбен. Дайшоў Іван Паўлавіч да стану, калі, як кажуць, і людзі адвярнуліся, і Бог. Аднак выпрабаванне на гэтым не скончылася. Выпадкова апынуўся ён на шляху карцёжнікаў, якім закон не пісаны: той, хто прайграў, павінен забіць першага стрэчнага. Стрэчным аказаўся Іван Паўлавіч...

Добрае ўражанне пакідае апавяданне Л.Лукіянавай «Макет чалавека» /1993, N 2/. Перад намі як бы галоўныя героі ў адной і той жа асобе. Віктар Міхайлавіч Селязнёў — знакаміты настаўнік, мае «граматы за добрую і плённую працу». І звычайны, абыякавы чалавек — у быце, у сям'і, які ўсе паўсядзённыя клопаты пераклаў на жонку, а сам толькі філасофствуе, як трэба жыць. Праўда, людзі гэтага не заўважаюць, бо Віктар Міхайлавіч умее пусціць пыл у вочы.

Спакутаваная па дабрыні, падманутая душа раскрываецца ў апавяданні «Белая лілея». Л.Лукіянава, зноў жа, не задавальняецца простым расказам, яна імкнецца пранікнуць у глыбіню характару, разабрацца, што і да чаго. А вось апавяданне «Антось», па-мойму не атрымалася. Мне думаецца, што паводзіны героя вытлумачаны павярхоўна, што на самай справе ўсё куды складаней, чым падаецца на першы погляд.

Праблема дабра, зла, сутыкненне іх — у цэнтры апавядання Я.Конева «Нашчадак» /1993, N 2/. Фелікс, які лічыць сябе нашчадкам даўняга роду Ваўковічаў, на паверку аказваецца зусім не тым чалавекам, за каго сябе выдае, што ў глыбіні яго душы жыве інстынкт уласніцтва, прага помсты. А мо ўвогуле чалавеку наканавана прыродай жорсткасць?

У пэўнай ступені твору Я.Конева сугучна апавяданне І.Карповіча «Тады...» /1993, N 2/. Думка, якая праводзіцца ў ім, таксама не надта новая: чалавек адказны і за ўчынкі іншых людзей, сваіх папярэднікаў. Але І.Карповічу ўдаецца знайсці свой паварот тэмы. Да ўсяго і сам сюжэт пабудаваны дынамічна.

На калісь забароненую тэму і апавяданне А.Камінскага «Згубніца» /1993, N 2/, пазначанае аўтарам чамусьці як навела. Выпадкаў, пра які расказваецца, у гады мінулай вайны было нямала. Як гэта ні жахліва, у гады вайны людзі, ратуючы сябе, часам забівалі грудных дзяцей, якія крыкам сваім наклікалі бяду. Гераіня апавядання Ганна, праўда, пайшла на падобны ўчынак не па сваёй волі, яе прымусілі. Ды хіба ад гэтага жанчыне лягчэй?! Праз дзесяцігоддзі не можа супакоіцца. Ды і як змірыцца, калі тая ж самая Манька, якая некалі штурхнула яе на бесчалавечны ўчынак, цяпер ледзь не папракае: «Чаго равеш?! Хочаш свята спаганіць?! Узяла грэх на душу, то й цярпі...»

Стала прапісалася на старонках «Першацвета» літаратурная крытыка. Гаворачы пра канкрэтную кнігу ці твор, аўтары сягаюць далей самога прадмета гаворкі. А.Пяткевіч, напрыклад, аналізуючы калектыўны паэтычны зборнік «Шлях» /«Хто на шляху...», 1993, N 2/, аргументавана разважае аб паэзіі традыцыйнай і нетрадыцыйнай, падмацоўваючы свае вывады важкімі аргументамі. І рэцэнзія Ю.Алесьнінай на кнігу Я.Хвалея «Пацукі, або Таямнічы дзённік» /«Праглядаецца безнадзейнасць, або Хто такія пацукі», 1992, N 1/ «цягне» на разгорнуты артыкул, у якім асноўная ўвага сканцэнтроўваецца на маральных аспектах і літаратуры, і жыцця. А яе артыкул «Сонца беларускай прозы. М.Гарэцкі і яго аповесць «Дзве душы» /1993, N 2/ сведчыць, што напісаны ён чалавекам, здатным выказваць і ўласныя арыгінальныя думкі, і з павагай прыслухоўвацца да папярэднікаў. Гэты твор М.Гарэцкага разглядаецца неізалявана, а ў кантэксце яго мастацкай спадчыны, беларускай літаратуры ўвогуле. Робіцца і ўдалы выхад на творчасць Ф.Дастаеўскага.

Да Я.Купалы звяртаецца Д.Санюк /«Сілы смерці і нябыту. Тэма прарока ў драме Янкі Купалы «Раскіданае гняздо», 1993, N 1/. Аўтару артыкула таксама не адмовіш у сваім поглядзе на гэты выдатны твор.

А.Пашкевіч выказаў цікавыя думкі адносна творчасці У.Клішэвіча ў артыкуле «Падняцце ізноў...», звярнуўшы найперш увагу на яго малавядомыя вершы, якія, дарэчы, тут жа апублікаваны /1992, N 1/. Багаты на інфармацыю і артыкул гэтага ж аўтара «Лёс аўтографа Францішка Багушэвіча» /1993, N 2/. С.Чыгрын /1993, N 1/ знаёміць з забытым сёння паэтам і выкладчыкам Ф.Грышкевічам /апублікавана і некалькі яго вершаў/.

«Першацвет» не абмяжоўваецца толькі літаратурай маладых. Пра гэта сведчыць раздзел «Гасцёўня». У ім прадстаўлены Н.Мацяш, В.Шніп, А.Кірвель — літаратары старэйшых пакаленняў. Хоць на маю думку, «Гасцёўню» можна было б разнастаіць і інтэрв'ю са знакамітымі пісьменнікамі, і неабавязкова толькі пра майстэрства, сакрэты творчай лабараторыі.

Прапісаўся і гумарыстычны раздзел «Жароўня». У ім не толькі змяшчаюцца дасціпныя творы, але і падаюцца яны з досціпам. Напрыклад, у першым нумары за сёлетні год публікацыям пародый М.Скоблы папярэднічае здымак аўтара ў дзіцячым узросце і прыпіска: «Атрымаўшы ад аўтара гэты фотаздымак, мы маглі растлумачыць яго памкненне толькі адным: вуснамі дзіцяці гаворыць...ісціна».

Часопіс адбыўся. Што яму пажадаць? Бадай, тое ж, што пажадаў у першым жа нумары А.Лойка ў артыкуле «Першацвет — на радасць...» Дадаць варта хіба адно: шчодры цвет — першацвет.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



# СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ


## ДУМКУ — НА «ЗВАЖАЙ!»

***Чым моцнае любое войска? Тым, што тут вельмі лёгка навесці парадак. Паставіў усіх на «Зважай» і ніхто не пікне, і не паварушыцца. Гэта так, ды вось бяда, як аднолькава ні цягнуцца ў струнку тыя жаўнеры, а думае кожны сваё.***

Доўга меркавала Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, як бы і гэты непарадак ліквідаваць, і тыя непаслушныя думкі таксама паставіць на «Зважай», каб ішлі яны вызначаным ідэолагамі міністэрства кірункам. І змікіцілі. Выйшла з прапановай у Вярхоўны Савет аб дэпалітызацыі войска, гэта значыць, каб забараніць вайскоўцам займацца палітычнай дзейнасцю не толькі ў службовы, а і ў вольны час. Удар наносіўся мэтанакіравана, па структурах і сябрах Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Але не дарэмна Міністэрства абароны па ўсіх вуглах крычыць пра слабую бяздольнасць Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і просіцца пад парасон калектыўнай бяспекі. Пэўна, так яно і ёсць. Бо як жа тады вытлумачыць той факт, што міністэрства цэліла куляй, а мо і снарадам у БЗВ, а трапіла шротам і ў каго?

Што ўдар прыйшоўся міма БЗВ — гэта відавочна, бо ў статуце БЗВ чорным па белым запісана: БЗВ — арганізацыя не палітычная. А вось што зараз рабіць з сябрамі Славянскага Сабора, якія гучна назвалі сябе партыяй? Трэба, трэба прымаць меры. Што рабіць з вайскоўцамі-дэпутатамі Саветаў усіх рангаў і, у першую чаргу, з дэпутатамі Вярхоўнага Савета? Яны ж займаюцца жывой палітыкай! Трэба іх прасіць — ці з Вярхоўнага Савета, ці з войска.

Яшчэ больш пырскаў нарабіла тлумачэнне да даклада міністра абароны /газета «Во славу Родины» ад 27 сакавіка 1993 года/, дзе сказана: «Такім чынам, папраўка да Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе вайскоўца» забараняе іх удзел у дзейнасці партый, грамадска-палітычных і іншых рухаў. Грамадскай дзейнасцю вайскоўцы могуць займацца ў рамках Афіцэрскіх сходаў і арганізацый ветэранаў лакальных войн і канфліктаў, уключаючы і «афганскія» рухі».

Цікава было б ведаць, што разумеюць аўтары тлумачэння пад грамадскай дзейнасцю? Пэўна, зноў БЗВ. Але што яны збіраюцца рабіць з сябрамі розных таварыстваў і грамадскіх арганізацый? Калі забараніць усю грамадскую дзейнасць, то трэба выгнаць з войска ўсіх членаў творчых саюзаў — пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, журналістаў, членаў калегіі адвакатаў, членаў розных таварыстваў — ад гаражнага, садова-агароднага да паляўнічых і рыбаловаў, бо гэта ж таксама — грамадская дзейнасць.

Цікава, якую расправу падрыхтавала міністэрства над сябрамі ТБМ, якія робяць у войску работу, непасільную для самога міністэрства, — ажыццяўляюць выкананне «Закона аб мовах» ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь?

Дык што ж атрымоўваецца, шаноўныя міністэрскія спадары: патрыётаў з БЗВ — прэч з войска, а людзям, якія займаюцца антыдзяржаўнай дзейнасцю — «зялёная вуліца»? Нешта вы тут недадумалі, перадэпалітызаваліся.

А то сапраўды яно так і будзе, і міністэрскія чыноўнікі пасля прынящця папраўкі дружна адусюль павыходзяць і кінуцца прадаваць гаражы, лецішчы і стрэльбы. Калі ўжо гэта здарыцца, то і я выйду з усіх арганізацый, нават з «Таварыства цвярозасці», і хоць раз насцябаюся з радасці за нашых міністэрскіх, за іхнюю прынцыповасць.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ**

## Беларусізацыя войска і ТБМ

Працэс беларусізацыі войска мае шмат аспектаў. Адзін з галоўных — гэта падрыхтоўка да пераходу на беларускую мову. Арганізацыйна з боку Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь для гэтага робіцца калі не дастаткова, то ва ўсякім разе — шмат. Выдзелены службовы час /5 гадзін штодыднёва/; выдадзены дапаможнікі па гісторыі /выйшлі ўжо дзве часткі з пяці/, рыхтуецца да выдання падручнік беларускай мовы; мае месца падтрымка працэсу па розных лініях. Але калі заглянуць у падраздзелы і часткі, то вельмі цяжка заўважыць нейкія зрухі. Чаму? Ды таму, што ажыццяўляць гэты працэс на месцах няма каму. Добра, калі ў падраздзеле ёсць хоць адзін афіцэр, які ведае мову на прымальным узроўні. А калі няма? І справа ўжо ідзе нават не аб супрацьпаненні, хаця ёсць і такое, а аб глабальнай дэнацыяналізацыі беларускага афіцэрства, якую вельмі цяжка, але крайне неабходна пераадолець. Мы яшчэ не хутка атрымаем маладых лейтэнантаў, якія пройдуць беларускамоўны курс навучання ў вайсковых вучылішчах. Таму зараз неабходна весці самую актыўную працу з наяўным кантынгентам. І тут мы павінны гаварыць пра тыя сілы, якія могуць гэта рабіць ужо сёння.

Зараз адной з такіх сіл, а ў шмат якіх месцах і адзінай, з'яўляецца Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Таварыства з'яўляецца непалітычнай грамадска-гуманітарнай арганізацыяй, якая займаецца выключна пытаннямі пашырэння сферы ўжытку і папулярызацыі беларускай мовы, таму не мае ніякіх юрыдычных перашкод для дзейнасці ўнутры вайсковых часцей і падраздзелаў.

Супрацоўніцтва з ТБМ на сёння з'яўляецца выгадным як для войска, так і для ТБМ. Для войска яно выгаднае тым, што падраздзелы і часці, не патрацйўшы ні капейкі грошай, змогуць атрымаць высокакваліфікаваных выкладчыкаў як па гісторыі, так і па мове. Для ТБМ супрацоўніцтва выгаднае тым, што ў склад яго ўваходзяць сапраўдныя патрыёты беларускага слова, для якіх праца па яго пашырэнні не толькі пачэсны абавязак, але і справа ўсяго жыцця. Для іх праца ў войску — гэта новая ніва для патрыятычнай працы.

Але такі падыход прымальны толькі на сёння. Заўтра мы павінны ісці далей, на стварэнне суполак, а ў перспектыве — і структур ТБМ у войску. Безумоўна, вельмі важную ролю павінен адыграць тут інстытут намеснікаў камандзіраў па выхаваўчай працы, для якіх праца ў структурах ТБМ павінна стаць абавязковай. І не толькі з пункту гледжання лаяльнасці, а і з боку прафесійнай прыдатнасці. Стварэнне шмат суполак ТБМ вырашыць шмат якія праблемы выхавання, дазволіць павысіць грамадскую актыўнасць і ўзровень духоўнасці як асобных афіцэраў і жаўнераў, так і калектываў у цэлым. Суполкі ТБМ стануць асяродкамі беларусізацыі. Таму ўяўляецца мэтазгодным дасягненне пагаднення паміж кіраўніцтвам ТБМ і Міністэрствам абароны аб спалучэнні намаганняў па развіцці структур ТБМ ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь.

Да часу ж, пакуль такое пагадненне будзе дасягнута на верхнім узроўні, камандзіры ўсіх ступеняў і кіраўнікі суполак ТБМ на месцах маюць поўную магчымасць арганізаваць такое ўзаемадзеянне на ўзроўні, бліжэйшым да рэальнай справы.

**С.С**

## СА СВЯТАМ ПЕРАМОГІ!

Паважаныя суайчыннікі! Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны і працы! Усе жыхары Беларусі!

Беларускае згуртаванне вайскоўцаў сардэчна віншуе Вас са святам — Днём Перамогі! Мы жадаем Вам мірнага неба, здароўя, працоўных і іншых поспехаў, шчасця для Вас і Вашых сем'яў. Спадзяёмся, што ў гэты няпросты час станаўлення маладой Беларускай дзяржавы ўсе грамадзяне Беларусі, у тым ліку і Вы, ветэраны, зробяць усё ад іх залежнае па ўмацаванні нашай краіны, па патрыятычным выхаванні нашай моладзі, па павышэнні дабрабыту народа, каб не ўцягнуць шматпакутны народ Беларусі ў крывавыя канфлікты і братазабойчыя сутычкі.

Вечная памяць усім, хто аддаў жыццё за нашу свабоду. Няхай квітнее наша Радзіма-Беларусь.

**ВЫКАНАЎЧАЯ РАДА БЗВ**

## БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ АФІЦЭРЫ

Вецер часу ўзарваў векавечную цвіль,
Шок чырвонай заразы паціху праходзіць,
Над жалобай і пылам заўчасных магіл
Сонца яснае нашай свабоды ўзыходзіць.

Колькі вынішчыў нас гэты злы Трэці Рым,
Колькі нас ён распяў на крамлёўскім бязвер'і, —
А мы зноўку у шэрагах грозных стаім,
Беларускай пакутнай зямлі афіцэры.

Нас паслалі дзяды іх пачын завяршыць,
Каб той д'ябал чырвоны навек не вярнуўся,
І не знічкі на нашых пагонах блішчаць,
А гарачь на іх слёзы маёй Беларусі.

Слёзы крыўды, што век дратавала яе,
Слёзы жалю, як дзетак бяздольных абшараў,
Слёзы шчасця, што ўрэшце наш час настае
І збываюцца прашчураў светлыя мары.

Іх Касцюшка вучыў, як Радзіму любіць,
Каліноўскі да волі паказваў дарогу,
Мы ж павінны астатняе сёння зрабіць,
Каб суцешыць іх душаў гаротных трывогу,

Каб спакойна маглі ў цішыні спачываць
У спакоі здзяйснёнай надзеі і веры,
Бо на варце іх мараў надзейна стаяць
Беларускай свабоднай зямлі афіцэрам.

**Станіслаў СУДНІК**



*22 сакавіка дэлегацыя БЗВ у дзень 50-годдзя хатынскай трагедыі ўсклала вянок і ўшанавала памяць ахвяраў фашызму на Беларусі. Па загаду з Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь за ўдзел у гэтым мерапрыемстве некаторыя вайскоўцы-сябры БЗВ атрымалі ад сваіх начальнікаў службовыя спагнанні.*

# КАЛІ Я ПРЫСЯГНУ НА ВЕРНАСЦЬ БЕЛАРУСІ?

Пэўна, хтосьці, прачытаўшы гэты загаловак, скажа: «Яшчэ адзін усхваленец Бацькаўшчыны з'явіўся». Цяпер жа казаць прыгожыя ды гучныя прамовы, гэтак, як і пісаць артыкулы на патрыятычныя тэмы, вельмі ўжо модна.

Я паспрабую распавесці пра ўсё па-вайсковаму дакладна, коратка, хоць справа датычыць самага галоўнага — будучага маёй Бацькаўшчыны.

Мінула не так ужо і шмат часу з таго дня, як вайскоўцы прынялі прысягу на вернасць Беларусі. Былі гучныя выступы і прамовы. Радыё і тэлебачанне не шкадавала эфірнага часу для асвятлення гэтай падзеі. Дэмакраты — задаволены, бюракраты — смяюцца. Кожны застаўся пры сваіх інтарэсах. І ніхто не кажа, што зроблены толькі невялічкі крок па шляху стварэння дзейнай абароны дзяржавы.

Мы ўсе ведаем, што існуючае войска ў ліхую гадзіну мае сваёю мэтаю праводзіць ваенныя дзеянні ў абмежаваны час. За гэты час павінна адбыцца мабілізацыя, утвораны і разгорнуты новыя вайсковыя часці, злучэнні; фактычна створаны новыя ўзброеныя сілы, якія па сваіх колькасных памерах могуць быць значна большыя за ўзброеныя сілы мірнага часу. Самыя звычайныя людзі вымушаны будуць апрануць шынялі і стаць вайскоўцамі.

А што робіцца ў гэтым кірунку?

Нядаўна я звярнуўся ў ваенкамат з запытаннем, калі ж, як афіцэр запасу, магу прыняць прысягу на вернасць Беларусі? І атрымаў такі адказ: «Афіцэры і жаўнеры запасу будуць прымаць прысягу толькі падчас мабілізацыі». І тут жа ўдакладнілі: «Другімі словамі, калі будзе вайна».

А калі справа пастаўлена так, то ў мяне ўзнікае некалькі пытанняў, якія я хацеў бы задаць асобам з Міністэрства абароны.

Калі ўжо здарыцца такая бяда і мы вымушаны будзем са зброяй у руках паўстаць на абарону сваёй Айчыны, няўжо будзем мець столькі часу, каб траціць яго на мерапрыемства, якое можна правесці зараз, без усякай паспешлівасці? Беларусь — невялікая па памерах дзяржава і, як я разумею, мабілізацыю належыць правесці выключна за кароткі тэрмін.

А як быць з тымі вайскоўцамі, якія адмовіліся прыняць прысягу на вернасць Беларусі, але засталіся яе грамадзянамі і па ўзросту падлягаюць мабілізацыі? Яны тады тым болей не стануць прысягаць на вернасць Беларусі. Атрымаецца дзіўная сітуацыя: людзі стала жывуць у краіне, атрымліваюць ад яе пенсію, а абараняць яе не маюць жадання.

У гэтым выпадку трэба вызначыцца зараз і толькі зараз.

А ці не можа ўзнікнуць такая сітуацыя, калі на занятай тэрыторыі захопнік правядзе мабілізацыю нашых грамадзян і прывядзе іх да сваёй прысягі? Такі акт будзе законным, бо мы нікому не прысягалі. І пойдзе беларус на беларуса.

А, можа, хтосьці на гэта і разлічвае?

Каб не было ў будучым такіх недарэчнасцей, давайце зараз прысягнем на вернасць Беларусі.

**І. ПАЛУБЯТКА,**
**афіцэр запасу**




*21 сакавіка. Мінск, праспект Ф. Скарыны. Марш БЗВ «За дэмакратыю і незалежнасць».*

# ЦІ ТРЭБА НЕЙТРАЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВЕ СТРАТЭГІЧНЫЯ БАМБАРДЗІРОЎШЧЫКІ?

***З боку прыхільнікаў так званай «калектыўнай бяспекі» ўсё гучней заявы пра тое, што Рэспубліка Беларусь не зможа ўтрымліваць свае Узброеныя Сілы, што хутка мы ўвогуле застанёмся без узбраення, бо не зробім яго і не прыдбаем.***
***Але запытаем у саміх сябе: ці патрэбны нейтральнай дзяржаве стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі, ці патрэбны субмарыны-гіганты накшталт «Акулы», «Тайфуна», ці трэба нашай краіне наогул утрымліваць такую вялікую колькасць неўкамплектаваных дывізій?***
***Тое, што нармальна ўкладаецца ў кантэкст ваеннай дактрыны звышдзяржавы, можа легчы непасільным цяжарам на эканоміку нейтральнай Беларусі.***

Відавочна, што велізарная Савецкая Армія існавала не толькі ў якасці інструмента знешняй палітыкі, але і для ўнутрыпалітычных праблем Савецкага Саюза. Унутраная функцыя арміі маскіравалася пад лозунгамі: «Народ и армия едины», «Любимые вооруженные силы», «Оплот социализма и мира во всем мире». А рэалізоўвала яе войска ў 1962 годзе ў Новачаркаску, ужо ў «перабудовачны» час — у Тбілісі, Баку, Вільні і, нарэшце, у жніўні 1991 г., у Маскве. Можна не сумнявацца, што падобны сцэнарый існаваў і для Мінска, для войск Беларускай ваеннай акругі...

Ці такое войска, з такімі функцыямі трэба Рэспубліцы Беларусь? Але ж як падтрымліваецца ў грамадскай свядомасці рамантычны флёр вакол «непобедимой и легендарной», так адначасова ігнаруюцца яе хваробы /войска ж — люстэрка грамадства/. Як шырока прапагандуецца перавага колькасці над якасцю, так паказуха падмяняе сур'ёзную размову аб праблемах Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь! Як, скажам, разумець ідэнтычнасць мэт, задач БЗВ з дырэктывамі і загадамі МА Рэспублікі Беларусь у тэорыі, а на практыцы — рэпрэсіі супраць сяброў арганізацыі, існуючай хіба што на энтузіязме і патрыятызме свядомых афіцэраў? Як суаднесці заклікі дэпутатаў авальнай залы да эканоміі, ашчаднасці ў гэткі цяжкі для маладых Узброеных Сіл перыяд і адначасова фактычна санкцыянаванае марнатраўства матэрыяльных сродкаў і грошай?

Зразумела, трэба вызначыцца, якое ўзбраенне фінансаваць рэспубліцы, але рабіць гэта павінны спецыялісты, якія ведаюць тэхнічныя характарыстыкі тых ці іншых сістэм узбраення; тыя, хто ў стане вызначыць, якая менавіта тэхніка патрэбна дзеля абароны дзяржавы; тыя, хто ведае «ружу вятроў», уплыў анамальных з'яў на тэрыторыі дзяржавы на тую ці іншую радыёапаратуру, станцыю, пралічыць жывучасць хадавой часткі ў залежнасці ад абразіўнасці грунту і г. д.

Гэтага не зробіць дырэктар саўгаса, хоць і са значком дэпутата Вярхоўнага Савета, гэта зробіць ваенны спецыяліст за пультам камп'ютэра.

Так, я не разумею і таго, навошта было збіраць узоры ваеннай тэхнікі ў Н-скай часці Мінскага гарнізона для паказу народным дэпутатам. Ці пацікавілася Кантрольная палата, колькі гэтае «шоу» каштавала? Колавая тэхніка прыйшла сваім ходам, гусенічную даставілі на платформах і трэйлерах. Ды гэтай жа тэхніцы трэба будзе яшчэ вярнуцца, трэба патраціць ГСМ, чалавека-гадзіны, каб ізноў паставіць усё на захоўванне. А яшчэ гэтыя экіпажы былі адарваны ад заняткаў, стрэльбаў, вучэбных пускаў. Пра згублены асабісты час афіцэраў і не кажу, гэта нашымі камандзірамі ў разлік не бярэцца.

Дык якая канчатковая сума?

Можа, гэтага хопіць на кватэру прапаршчыку Гардыку, які 33 гады праслужыў, прайшоў Афганістан і ў выніку застаўся адзін? А ў парламенце сядзіць нехта ў мундзіры, за каго нашы сем'і галасавалі. Можа, вы забылі на свае абяцанні? Тады часцей заглядвайце ў казармы, капцёркі, сталовыя, дзе на 800 чалавек — 150 талерак; зазірніце пад дзіравыя танкавыя тэнты, зазірніце тады, калі там спіць рота пасля начных РТУ, накідаўшы на зямлю яловых лапак і кінуўшы зверху яшчэ больш дзіравы тэнт; зазірніце і пабачце, як бот камандзіра БМП замяняе падушку механіку-вадзіцелю гэтага ж БМП.

Шаноўныя ветэраны, прыхільнікі «непобедимой и легендарной», гэта малюнкі не з чэрвеня 41 года, гэта канец XX стагоддзя, гэта служба вашых унукаў і будучыня праўнукаў.

Хто адкажа, што дагэтуль перашкаджала рэфармаваць, палепшыць наша войска? Ды, відаць, тая акалічнасць, што доўгі час войска па ідэалагічных меркаваннях было па-за крытыкай. І было б добра, каб сёння пытанне «ці трэба нейтральнай дзяржаве стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі?» вырашалі не штабныя генералы пенсійнага ўзросту і прадстаўнікі ваенна-прамысловага комплексу, а сапраўдныя спецыялісты, адказныя за свае словы.

**А.БАБРОВІЧ,** сябра БЗВ



***Станіслаў СУДНІК даўно працуе над вайсковай тэрміналогіяй. У мінулым годзе з дапамогай камп'ютэра ў Прыазёрску Джэзказганскай вобласці падпалкоўнік С. Суднік выдаў «Шыхтовы Статут Беларускага войска». Прапануем увазе чытачоў невялічкі слоўнічак з гэтага статута. Спадзяёмся, што на гэтую публікацыю адгукнуцца ў першую чаргу чытачы-вайскоўцы. Нам цікава будзе ведаць вашу думку. Мажліва, у кагосьці з'явяцца і іншыя прапановы. Хацелася б, каб гэтую публікацыю не абышло ўвагай і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.***

# ШЫХТОВЫЯ КАМАНДЫ

| | |
|---|---|
| Становись | Зборка |
| Ровняйсь | Раўнуй |
| Смирно | Зважай |
| Вольно | Спавель |
| Отставить | Пакінь |
| Внимание | Увага |
| Заправиться | Рыштунак да ладу |
| Так точно | Так |
| Никак нет | Не |
| Есть | Рэй |
| Налево | Лева фронт |
| Направо | Права фронт |
| Кругом | Тыл фронт |
| Полоборота налево | Лева скос |
| Полоборота направо | Права скос |
| Шагом марш | Крокам руш |
| Кругом марш | Тыл фронт руш |
| Бегом марш | Бегам руш |
| Строевым шагом марш | Вучэбным крокам руш |
| Прямо | Проста |
| Левое плечо вперед | Права кірунак |
| Вперед | Наўпрост |
| Шире шаг | Доўгі крок |
| Короче шаг | Дробны крок |
| Чаще шаг | Часты крок |
| Реже шаг | Рэдкі крок |
| К оружию | Да зброі |
| В ружье | За зброю |
| Положить оружие | Палажыць зброю |
| Отпустить ремень | Падоўжыць пас |
| Подтянуть ремень | Скараціць пас |
| На ремень | На пас |
| На караул | На фронт |
| К ноге | Зброю стаў |
| На плечо | На плячо |
| Оружие за спину | Зброю за плечы |
| Предохранитель ставь | Бяспечнік стаў |
| Штык-нож отомкнуть | Штык-нож зняць |
| Штык-нож примкнуть | Штык-нож надзець |
| Поправить оружие | Зброю да ладу |
| Ложись | Легчы |
| К бою | Да бою |
| Встать | Устаць |
| Головные уборы снять | Галаўныя ўборы далоў |
| Головные уборы надеть | Галаўныя ўборы надзець |
| Отделение, в одну шеренгу — становись | Дружына, у адзін шэраг — зборка |
| Взвод — разойдись | Звяз — раскід |
| Отделение, вправо на два шага разомкнись | Дружына, управа на два крокі росступ |
| Отделение, к центру сомкнись | Дружына, да цэнтра — соступ |
| Отделение, на первый-второй — рассчитайсь | Дружына, на першы-другі — лічы |
| Взвод, в колонну по три шагом — марш | Звяз, у калону па тры крокам — руш |
| Батальон, в линию ротных колонн — становись | Батальён, у лінію ротных калон — зборка |
| Смирно. Равнение на право | Направа — Зважай |
| Полк, под знамя. Смирно. | Полк, пад штандар — зважай. |
| Для встречи справа — на караул | Для спаткання справа зброю — на фронт |
| Полк, под знамя. Смирно, равнение направо | Полк, пад штандар направа — зважай |
| Здравствуйте, товарищи | Вітаю, спадарства |
| Здравия желаем, товарищ полковник | Вітаем спадара палкоўніка |
| Полк, к торжественному маршу,поротно, на одного линейного дистанция, первая рота, прямо, остальные направо. | Полк, да ўрачыстага руху, паротна, на аднаго лінейнага одступ, першая рота — проста, астатнія — права. |
| Равнение направо шагом— марш | Фронт. Направа зважай. Крокам руш. |
| К машынам | Да машын |
| По местам | Па месцах |
| Увеличить дистанцию | Павялічыць одступ |
| Принять вправо | Права — збоч |
| Рядовой Савицкий! | Шараговы Савіцкі! |
| Я! | Я! |
| Выйти из строя на пять шагов! | Выйсці з шыхту на пяць крокаў! |
| Есть! | Рэй! |
| Стать в строй! | Стаць у шыхт! |
| Есть! | Рэй! |

***Спадзеючыся атрымаць водгук на гэтую публікацыю, мяркуем, што да абмеркавання праблем беларускай вайсковай тэрміналогіі спрычыніцца і навуковая грамадскасць.***



*На здымку: удзельнікі спектакля «Трохграшовая опера» Б.Брэхта. Спадарыні: Вольга КУЛЯШОВА /Люсі/, Ганна ЛЯГЧЫЛАВА /Полі/, Зоя МАЛАДЫХ /Джэні/. Спадары: Артур ШУЛЯК ./Джэкаб/, Ігар ЗАБАРА /Макхіт/, Віктар ВАСІЛЬЕЎ /Пічэм/.*

*Фота Алены АДАМЧЫК*

праз тое, што пэўнасці іх дачыненням з Макхітам не нададзена? І ад каго перадусім залежыць яе наданне?.. У чым рэжысёру не адмовіш, дык гэта ў досціпах. Ім, напрыклад, станецца ўвасабленне эшафоту для Мэкі: шлюбны ложак, перароблены з вазка, будзе апошнім прыстанкам Нажа; альбо знакамітая сцэна паразумення дзвюх Макхітавых жонак, якія раз-пораз прадстаўляюцца цяжарнымі, маніпулюючы то жыватамі, то іхнім «змесцівам», то прыстойнасцю, то Макхітам, то адна адною — без відавочнае шкалярскае задачы апраўдаць усе рэжысёрскія падказкі...

...Альтэрнатыўны тэатр, жывучы сваім адумам, такі падобны на аднаго са сваіх герояў! На шлюбным эшафоце той праспяваў:

«Мы ўсе папраўдзе — легкадумны люд.
Зрабіць іначай — вам наканавана.
Хай доля нашая вас абміне...»

Хай?

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**ФЕСТЫВАЛІ**

# ВІЦЕБСК, «МЕНЕСТРЭЛЬ»...

Гітара. Гэты інструмент у сэнсе папулярнасці, мабыць, не мае сабе роўных: на ім іграюць і музыканты, і акцёры, і мастакі, і спартсмены, і ... хуліганы. Прываблівае да сябе гітара мяккім гучаннем ды лёгкасцю /на першы погляд/ выканання на ёй. Лёгкасць, вядома, уяўная, таму і чуеш — цяпер радзей — на вуліцы, у дварах гітарны акампанемент з трох акордаў.

Так, гітара — адзін з самых «цяжкіх» інструментаў у музычным выканальніцтве. Але і адзін з самых удзячных: калі яго бярэ ў рукі сапраўдны майстар, тады гукі чаруюць, лашчаць ды песцяць або трывожаць, ці засмучаюць, ці захапляюць душу. Гэткім высокамастацкім, узнёслым гучаннем поўніліся залы Палаца прафсаюзаў, зала музычнага вучылішча імя І.Салярцінскага ў Віцебску, зала Навапалацкага музычнага вучылішча падчас Другога камернага фестывалю класічнай гітары «Менестрэль».

Фестываль зноў прадэманстраваў высокі прафесійны ўзровень выканаўцаў і добрую арганізацыю. Сярод удзельнікаў былі ўжо знаёмыя віцяблянам лаўрэаты міжнародных конкурсаў У.Тэрво з Нагінска, В.Кузняцоў з Разані, С.Рудneў з Тулы, саліст Санкт-Пецярбургскай філармоніі М.Радзюкевіч, знаныя беларускія гітарысты В.Жывалеўскі ды Я.Грыдзюшка і інш. Спіс гасцей папоўніўся сёлета і новымі імёнамі: лаўрэаты міжнародных конкурсаў кампазітар М.Кошкін з Масквы, выкладчык Расійскай акадэміі музыкі М.Камалятаў, Л.Тэрво /сын вядомага гітарыста/, студэнты класа знакамітага А.Фраучы. Удзельніцай фестывалю была нямецкая скрыпачка М.Пфлюгер, якая выканала некалькі твораў у дуэце з У.Тэрво.

Цудоўныя музычныя вечары пазнаёмілі слухачоў з вялікай колькасцю твораў для гітары, практычна ўсіх стыляў ды жанраў, ад мінуўшчыны да нашых дзён: І.С.Бах, Л.Бакерыні, Ф.Пуленк, Э.Віла-Лобас, І.Альбеніс, М.Мусаргскі, М.Кошкін, В.Жывалеўскі, С.Рудneў, п'есы з «Полацкага сшытка» і інш. Складаныя й працяглыя праграмы канцэртаў з вялікай цікавасцю і задавальненнем слухала размаітая публіка, вітаючы выканаўцаў шчырымі апладысментамі.

Гітара гучала ў поўным сэнсе слова на ўсе лады і галасы, бо кожны артыст мае свае адметныя выканаўчыя прыёмы ды манеру. Філасофска-інтэлектуальнае выкананне М.Кошкіна, «арыстакратычны» стыль М.Радзюкевіча, чароўна-артыстычнае гранне А.Бардзінай, аксамітны «голас» гітары М.Камалятава, «клавесіннае» гучанне дуэта бацькі ды сына Тэрво... Словам, усе музыкі прадэманстравалі высокі клас ігры, прадставілі гітару як інструмент шырокіх творчых магчымасцей. Але гэта, пэўна, яшчэ не ўсё, на што здатная гітара. І таму чакаем мы новых фестываляў, новых імёнаў, новага рэпертуару.

Падчас фестывалю былі зроблены гуказапісы, і ёсць дамоўленасць з віцебскай фірмай «Белатон» наконт выпуску двух дыскаў з выступленнямі ўдзельнікаў «Менестрэля-93». Адзначу, што ўсе яны рады сабрацца ў гасцінным Віцебску, пагутарыць, паспрачацца, падзяліцца творчымі планамі з калегамі. А потым — выказаць удзячнасць арганізатарам фестывалю: віцебскаму Палацу прафесійных саюзаў, абласному аддзяленню Музычнага таварыства Беларусі, віцебскай кампаніі «АРТ МАРК», а таксама спонсарам, сярод якіх Акцыянернае таварыства, прамыслова-гандлёвая кампанія «ЭЛТИК», фірма «ЭКСПО», малое калектыўнае прадпрыемства «Альтэрнатыва».

Спадзеючыся і на далейшую падтрымку спонсараў ды мецэнатаў, мы гаворым: да пабачэння, віцебскі «Менестрэль».

**Уладзімір ПРАВІЛАЎ**

*г.Віцебск*

не асмеліўся б прынародна распавесці, што рабілася падчас гэтых наездаў у Белавежу. Што ж, тады Валянцін Васільевіч і былым не з'яўляўся, быў што ні ёсць сапраўдным начальнікам, яму давяралі, а ён на давер адказваў даверам і паслухмянствам. Цяпер жа, нарэшце, можна сказаць праўду. І пра тое, як палявалі, і пра тое, як балявалі...

Ну, а сёння? Час жа іншы, магчыма, браканьерства на дзяржаўным узроўні нарэшце скончылася? Час іншы, а ці іншыя людзі? Вось у чым пытанне. І ў фільме яно нездарма ставіцца адкрыта. На жаль, мала што змянілася ў лепшы бок. Вядома, наездаў, падобных царскім ці брэжнеўскім, ужо няма, але па-ранейшаму над Белавежай «цемра густая».

З трывогай расказвае пра гэта народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А.Кузьма. Ды і як не трывожыцца, калі парадку ў запаведным лесе мала. Пра які парадак можна гаварыць, калі гэты лес бязлітасна высякаецца і ідзе на будоўлю дач... тых самых высокапастаўленых чыноўнікаў, якія шчасліва зберaглі сваю ўладу.

Вока аб'ектыва выхоплівае масіўныя літары, што, здаецца, ніякім павевам ачышчальных вятроў не паваліць на зямлю: «Слава Великим завоеваниям Октября!». Хоць плач, хоць смейся. Толькі, думаецца, не плакаць і не смяяцца трэба, а дзейнічаць. І дзейнічаць разам, грамадой. І чым хутчэй, тым лепш. Інакш будзе позна, і «светлая аблачынка нашае Беларусі» знікне, як шмат што ўжо знікла і знікае на гэтай такой старой і грэшнай зямлі.

Не павінна знікнуць! І для нас, і для нашых нашчадкаў мусіць застацца гэтая прыгажосць. Інакш — што ж мы за людзі, калі не ўмеем берагчы тое, чаму цаны няма? Як пацвярджэнне гэтай думкі — зноў на экране маляўнічыя краявіды. Хораша стасуецца да іх верш Р.Барадуліна, які выклікае пачуцці і спадзяванне на лепшае:

Пушчу хрысцілі
Стрэльбы, сякеры.
Ды Белавежа
Паганскае веры.
Пушча трывушча.
Моўчкі трывае.
Толькі ці вытрымае,
Векавая?
Хто гэта
Дрэва легенды хістае?
Белая вежа.
Цемра густая...

На завяршэнне хацелася б нагадаць, што чарговая работа «Белвідэацэнтра» — добрае пацвярджэнне таго, што і ў наш цяжкі час пры жаданні можна знайсці сродкі, каб працаваць не толькі на рынак, а і ў імя нацыянальнага Адраджэння!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Памяці Мікалая Цішачкіна

Трагічна загінуў заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Мікалай Пятровіч Цішачкін. Пайшоў з жыцця чалавек, бязмежна адданы коласаўскаму тэатру і роднаму гораду.

М.П.Цішачкін нарадзіўся 14 сакавіка 1938 года ў Віцебску. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута ў 1959 годзе назаўсёды звязаў свой лёс з адзіным тэатрам. Яркі характарны, камедыйны акцёр, ён карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод гледачоў. М.П.Цішачкін стварыў адметныя сцэнічныя вобразы ў спектаклях «Несцерка» В.Вольскага /Шкапяр/, «Зацюканы апостал» А.Макаёнка /Бацька/, «Заставайцеся сонцам» А.Папаяна /Алік/, «Доктар філасофіі» Б.Нушыча /Мілорад Цвіёвіч/, «Развітанне ў чэрвені» А.Вампілава /Рэпнікаў/, «Ах, які пасаж!» У.Салагуба, П.Фёдарава /Мардашоў/, «Генры VI» В.Шэкспіра /Генры/, «Любоўнікі з Каліфорніі» Б.Слэйда /Джордж/, «Рэвізор» М.Гогаля /Хлопаў/.

Акцёрскія работы М.П.Цішачкіна адзначаны жыццёвай праўдай, высокім майстэрствам, дакладнасцю мастацкіх характарыстык. Акцёра вызначала здольнасць імправізаваць, знаходзіць і аддаваць гледачу толькі што адгаданыя таямніцы ствараемага вобраза. Можа, з гэтай прычыны заставаўся вечна маладым і цікавым ягоны Шкапяр з «Несцеркі», атрыманы ў спадчыну ад вялікага майстра і педагога Цімоха Сяргейчыка.

М.П.Цішачкін быў цікавым апавядальнікам, сапраўднай скарбонкай тэатральных кур'ёзаў і анекдотаў. На жаль, усё гэта засталося незапатрабаваным. Віцебскае тэлебачанне запланавала перадачу, дзе ён згадзіўся прыняць удзел у якасці апавядальніка, але раптоўная смерць абарвала ўсе планы.

Пайшоў з жыцця актыўны прапагандыст тэатральнага мастацтва, шчыры сябар і дарадца аматараў сцэнічнай творчасці.

У нашых сэрцах заўсёды будзе жыць імя Мікалая Пятровіча Цішачкіна, таленавітага акцёра-коласаўца, чалавека душэўна шчодрага і абаяльнага.

**КОЛАСАЎЦЫ**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі смуткуюць у сувязі з трагічнай канчынай акцёра тэатра імя Я.Коласа, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, члена СТД Цішачкіна Мікалая Пятровіча і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

## ВІНШУЕМ!



# ВАСІЛЮ ІВАШЫНУ — 80

Васіль Івашын — старэйшына беларускага крытычнага цэху. З першымі літаратурна-крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі выступіў яшчэ ў 1949 годзе. Якраз тады, калі скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі. Быў ужо, як кажуць, чалавек, які нямала пабачыў. Перад вайной /1938/ скончыў Мінскі педагагічны інстытут, выкладаў мову і літаратуру ў Віцебскім педагагічным вучылішчы, у час вайны служыў у арміі.

З першых творчых крокаў В.Івашына найбольш прыцягнула мастакоўская спадчына народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Малады даследчык разглядаў яе ў сувязі з падзеямі, якія адбываліся ў грамадстве падчас напісання таго ці іншага твора. Гэта бачна ўжо з манаграфіі «Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гадоў», якая выйшла ў 1953 годзе. Літаратурна-эстэтычныя погляды волата нацыянальнага слова аналізуюцца на фоне грамадска-палітычнага руху. Перад гэтым /1952/ В.Івашын выступіў з брашурай «Янка Купала — вялікі народны паэт».

Ды і пасля даследчык неаднаразова звяртаўся да творчасці песняра. У прыватнасці, у манаграфіі «М.Горкі і беларуская літарататура пачатку XX стагоддзя» /1956/, брашуры «Рэвалюцыя 1905—1907 гг. і развіццё беларускай літаратуры» /1955/.

Добра вядома і педагагічная дзейнасць В.Івашына. З 1967 па 1978 год ён з'яўляўся дырэктарам Навукова-педагагічнага інстытута педагогікі Міністэрства адукацыі Беларусі. 19 выданняў вытрымаў напісаны ім разам з В.Барысенкам падручнік для 8-га класа «Беларуская літаратура». Шмат разоў перавыдаваўся і падручнік «Беларуская літаратура» — плён працы В.Івашына і М.Лазарука. Не праходзяць па-за ўвагай і артыкулы В.Івашына ў перыёдыцы, прысвечаныя актуальным праблемам развіцця беларускай літаратуры.

Віншуючы Васіля Уладзіміравіча з 80-годдзем, зычым яму доўгіх год жыцця, творчага натхнення!

І — прапануем увазе чытачоў «ЛіМа» вершы юбіляра.

## СЛОВА

Ты ўсю людскую мудрасць умясціла,
Ўсю бездань думкі прагнай абняло,
Ўсяму, што ёсць на свеце і было,
Дало ты назву, скарбы ўсе адкрыла,
Душу майго народа акрыліла
Нязгаснай волі поклічам сваім.
Яго ты з чалавецтвам парадніла...
А колькі дзіўных песень нарадзіла!
І стала ты жаданым, дарагім,
Адроджанае матчынае слова.
І веру я у твой шчаслівы лёс,
Ў жыццё твае, адкрытае нанова.
Народ, што праз гады цябе пранёс,
Збярог і ў сваім сэрцы захаваў,
Сябе з табой ад згубы ўратаваў,
Навекі абяссмерціць цябе, слова!

## СВАБОДА

Цэмратворцы твае сонца закрывалі,
Святло твае хацелі пагасіць.
На цябе яны аковы надзявалі,
Змушалі цябе кайданы насіць.
Няскораная, ты іх разрывала
І мужным клічам-звонам вечавым
Знясіленых адвагай напаўняла,
Шляхі да волі асвятляла ім.
У цемрадзі паходняй ты гарэла,
Аддаючы агонь свой барацьбе.
Што ў сэрцы чалавечым набалела,
Ўсё болем аддавалася табе.
Спрадвеку ты жыла ў душы народа
Як спадзяванне праўды і дабра,
Маёй радзімы — мужная свабода,
Майго народа — ясная зара!

## ПАМЯЦЬ БЕРАЖЫЦЕ...

Памяць беражыце, беражыце,
Памяць ніў, лясоў, азёр і рэк,
Тых святынь сваіх, чым даражыце,
Што стварыў для шчасця чалавек.
Памяць маці і зямелькі роднай,
Шчодрай, незабыўнай, дарагой,
Памяць праўды, мудрасці народнай,
Што зраднілася навек з табой.
Памяць сэрца, любасці дзявочай,
Ўсіх юнацкіх, спраўджаных надзей,
Памяць думкі смелай і прарочай,
Абганяючай хаду падзей.
Памяць мары, вечнага імкнення,
Веры з чалавечай дабрыней,
Памяць ўсіх мінулых пакаленняў
Захавайце ў памяці сваёй.

●

Што пражыта, перажыта,
Не сплыло, не адышло:
Ў маёй памяці адбіта,
Ў маім слове узышло.
Адрадзілася, паўстала
З нематы і забыцця,
Засвяцілася, заззяла
Ўсімі фарбамі жыцця.
Што пражыта — не забыта,
Засталося дарагім...
І красуе маё жыта
На палетку веснавым.

## ВІНШУЕМ!



# ФЁДАРУ ЯФІМАВУ — 60

Сваё 60-годдзе сустрэў Фёдар Яфімаў. Фёдар Архіпавіч з поспехам выступае ў самых розных жанрах. На яго мастакоўскім рахунку некалькі кніг паэзіі, выдадзеных па-руску. Вядомы ён і як крытык. Акрамя таго, перакладае творы беларускіх паэтаў на рускую мову.

Віншуем Фёдара Архіпавіча з юбілеем, жадаем яму доўгіх год жыцця, далейшых творчых поспехаў і прапануем некалькі яго вершаў, перакладзеных Ю.Свіркам.

## НАЗАД

За ўсёй непатрэбнасцю Слова,
што спрабавала свет тварыць,
я і няўмольна, і сурова
развучваюся гаварыць.
Міжволі, спакваля, падспудна
сябе ўсяго, за слоем слой,
як сабіраў па слову, трудна,
так разбіраю — са слязой.
Быць зверам! — Страта? як паверыць?
Святкуй!.. Сыходзь ты з аднаго,
што к чалавеку шлях ад звера
быў не трудней, чым да яго.

## СААЎТАР

Свавольніцы, танцоркі, рагатушкі,
Пявунні, сараматніцы мае! —
Ідзеш, пяеш любімыя частушкі,
цябе да іх хай зайздрасць не міне.
Якая страсць і прастата і сіла!..
З дзесятак слоў такіх мне б адшукаць,
каб роднае сяло іх падхапіла,
каб у сваім нарэшце так сказаць:
я жыў, карміўся тым жа агародам,
і хоць пустэльнік быў і нелюдзім,
найлепшае я напісаў з народам,
а ўсё слабое выдумаў адзін.

●

Што лепіць нас — ці спрэчак
жар нястомны —
зямля, бацькоўскі дом /мы вечна з ім/,
старонка кнігі альбо хлеб надзённы?..
Не, сутнасць, сцверджу я,
зусім не ў тым.
Калі з цябе ўпустую схлыне сіла —
то сутнасць спрэчку атрасе, як грым:
не важна, што, якім цябе зляпіла,
а важна — што не прыняло такім.

●

Вось дзе сапраўдная бяда —
калі задум няма ў запасе:
ў засеку, не, не лебяда,
ды няма чым хлябок заквасіць.
З жыццём слабее повязь дзён,
мутнее дзень, цямнее далеч —
жывём, пакуль прамень відзён,
ён прападзе — і мы прапалі.

## ПЕКЛА

— Больш не магу!.. Які ўжо
круг самкнуты?..
— Дзесяты!
— Не маніш ты?.. А колькі нам ісці!..
Суровы чалавек прагаварыў з пакутай:
— Мне, каб сабою стаць,
хапіла дзевяці!..

## ХАРОШЫ ДЗЕНЬ

За ўсё — што справіўся з журбою
і з непадатлівай страфою,
за адчуванне трапяткое,
як быццам я памаладзеў,
за дзень душэўнага спакою,
за тое, што я нават пеў,
заплочана так многа сілы —
турбот, пакутлівых праяў,
ўсяго былога не хапіла,
у будучыні я заняў.
Яна назаўтрае, напэўна,
напомніць доўг вярнуць сумленна...
Ды вось і страхі у паўсне...
не спіцца... свежа... і святлее...
А ўсё-такі свядомасць грэе,
што ты, жамчужына — пры мне!..
Жыццё мне б мераць не гадамі,
што нам даюцца унаём,
а толькі вось такімі днямі,
калі мы сапраўды жывём.

*З ПОШТЫ «ЛіМа»*

# «ТУТ РУСКІ ДУХ...»

***Давялося мне неяк бавіць час на станцыі Асіповічы. Да адпраўлення цягніка на Бабруйск — каля дзвюх гадзін. Пазнаёміўся з раскладам руху, з рознымі інструкцыямі, аб'явамі. Уразіла тое, што нідзе і ніводнага слова па-беларуску. Аб'явы па радыё — таксама па-руску. Падумалася, што, можа, гэта так толькі ў Асіповічах? Але чаму такое дзеецца? Як вядома, на тэрыторыі Беларусі няма замежных сэтльментаў. Няма ў рэспубліцы раёнаў, якім нададзены статус экстэрытарыяльнасці. Няма на нашай зямлі і імперыялістычных калоній. Няма пакуль і свабодных эканамічных зон.***

Вядома, што Вярхоўны Савет адхіліў прапанову Савета Міністраў аб утварэнні такіх зон. Ды і ў такіх зонах карыстаюцца ў першую чаргу дзяржаўнай мовай, хоць аб'явы, шыльды, дакументацыя дубліруюцца і на іншых мовах.

Мяне гэта ўсё зацікавіла. Вырашыў пазнаёміцца з моўным рэжымам і на іншых вузлах і станцыях.

Горад Слуцк. Побач — аўтавакзал і чыгуначная станцыя. Аўтавакзал прыемна ўражвае. Расклад руху аўтобусаў і большасць розных аб'яў зроблены на беларускай мове. Высокі мастацкі густ афармлення. Радыёаб'явы — па-беларуску.

А на чыгуначным вакзале — зусім іншае. Як і ў Асіповічах, нічога па-беларуску. Такое ж становішча на чыгуначных станцыях у Магілёве і Светлагорску.

Участак «Асіповічы — Мінск». Электрычка. Назвы ўсіх прыпынкаў і станцый па-руску. А калі сустракаюцца назовы станцый і прыпынкаў па-беларуску, дык у сучасных варунках гэта набывае абразлівы, зняважальны або здзеклівы характар. Як, напрыклад, Бобруйск — Бабруйск. Як у калоніі! Дарэчы, гэтая ўнізе беларуская назва — адзінае слова па-беларуску на ўсёй станцыі.

Станцыя Друць /на лініі Магілёў — Асіповічы/. Будынак вакзала. На фасадзе вялікімі літарамі адзначана «Друть». А з левага боку маленькімі — «Друць».

Участак Жлобін — Светлагорск. Паміж гарадамі — 7 станцый і прыпынкаў. Усё па-руску. І толькі на адным прыпынку: Ящицы — Яшчыцы. Вось такі плюралізм.

Паміж Слуцкам і Асіповічамі 14 станцый і прыпынкаў. Толькі на станцыі Фалічы адна назва адзначана па-беларуску. І тут жа, побач, на гэтай станцыі дзве назвы зроблены па-руску.

Нярэдка, калі заходзіць гаворка аб выкананні на транспарце законаў Рэспублікі Беларусь, чыгуначнікі спасылаюцца на тое, што гэта будзе каштаваць значных выдаткаў, што, маўляў, спачатку трэба стабілізаваць эканоміку, падняць узровень жыцця людзей і інш.

На першы погляд гэта нібы і так. Але толькі на першы. Расклад руху цягнікоў двойчы за год змяняецца. На транспарце ёсць служба, якая павінна рэгулярна сачыць за зменамі на дыстанцыях /адкрыццё новых прыпынкаў, закрыццё станцый, рамонт, аднаўленне шыльдаў і іншае/. Для гэтага ў штаце ёсць неабходная колькасць афармляльнікаў, мастакоў, муляраў і выдзяляюцца патрэбныя сродкі.

Успамінаецца час, калі ў нас кожны год двойчы праводзіліся дэманстрацыі. Якія значныя сродкі ішлі на гэта! Тысячы партрэтаў кіраўнікоў партыі і ўрада, дзеячаў міжнароднага камуністычнага руху заказваліся лепшым мастакам. Сотні тысяч метраў тканіны /ніколі не бачыў у Бабруйску лозунгаў са старога матэрыялу/, форма ўдзельнікам, сотні аўтамашын. Аркестры. Аздабленне калон. І ніколі ніхто не адважваўся запярэчыць, што не хапае грошай, што можна і без дэманстрацый абысціся, і ніколі не пыталіся ў людзей, дзе знайсці тыя грошы.

А колькі памылак, недарэчнасцяў сустрэнеш на шыльдах! Старажытная вёска Вендараж чамусьці названа Вендрыж. Прыпынак каля вёскі Семукачы атрымаў назву Семуковічы. На тым жа ўчастку замест правільнай назвы — Нясята — станцыю назвалі — Несета.

Такіх прыкладаў безліч.

Каля дарогі Асіповічы — Мінск ляжыць вялікая вёска Блужа. Прыпынак цягніка там завецца «Майскі». А там, дзе знаходзіцца пасёлак Майскі /раней пасёлак Паддзягцярная/, прыпынак завецца «Блужа». Усё наадварот! Прыпынак Весялоўскі. Паблізу знаходзяцца вёскі Насыцк, Калюгі і Берлеж. Вёска ж Весялова зусім у іншым месцы — за станцыяй Талька.

Прыпынак Новае Сяло. Паблізу вёскі Станіслава, Нізаўка, Капейнае. Невядома, чаму назвы гэтых вёсак транспартным чыноўнікам не спадабаліся і яны далі прыпынку сваю назву — Новае Сяло. Хаця ні паблізу, ні наогул у Пухавіцкім раёне вёскі з гэткаю назваю ніколі не было і няма. Адсутнічаюць тут новыя вёскі і сёлы.

І такая блытаніна — на кожным кроку.

На чыгунцы вялікая ўвага надаецца стандартызацыі. Шырыня чыгуначнай каляіны, шырыня і вышыня выгонаў, лакаматываў павінны строга адпавядаць стандартам. Стандарты там усюды: у сувязі, сігналізацыі і інш. І толькі ў найменаваннях /транспартнай тапаніміцы/ і іх афармленні пануе неразбярыха.

На шмат якіх станцыях і прыпынках назвы зроблены на рускай мове, на некаторых — на беларускай. На адных будынках назвы азначаны тройчы, на іншых — двойчы, на трэціх — усяго адзін раз. На некаторых прыпынках перад назваю стаяць літары «о.п.» «остановка поезда». На другіх жа гэтыя літары адсутнічаюць. Літары ж «п.ц.» /прыпынак цягніка/ нідзе не сустракаў.

Вось такая анархія!

І зараз усталёўваюцца новыя прыпынкі. На ўчастку Асіповічы — Магілёў паміж прыпынкам Тачанка і станцыяй Нясята — новы прыпынак. Афіцыйная назва яго — «остановка поезда сорок второй километр». Ля самога прыпынку — вёска Дуброва. Няўжо гэтая прыгожая назва вёскі не падабаецца чыгуначнікам?

На лініі Бабруйск — Асіповічы паміж станцыяй Мірадзіна і прыпынкам Такары зрабілі прыпынак, які завецца: «Остановка поезда триста шестьдесят второй километр». Вакол — лецішчы бабруйчан. Чаму б не назваць гэты прыпынак «Лецішчы»?

Чыгунка ў рэспубліцы ўяўляецца мне вялізным манкуртавым гмахам. Гмах гэты нішчыць усё беларускае. Тыя кволыя парасткі, што вырошчваюцца ў родным доме, дзіцячым садку ці сельскай школе, будуць бязлітасна растаптаны гмахам.

Апошнім часам людзі, якія не вельмі дбаюць аб Адраджэнні, ахвотна бяруць на ўзбраенне слова «Беларусь» і з незвычайнай лёгкасцю ўжываюць гэта слова дзе трэба і дзе не трэба. Калгас імя Жданава ў Пухавіцкім раёне /цэнтр вёскі Сітнікі/ назвалі «Белая Русь». І маршрутны аўтобус стаў звацца «Мінск — Белая Русь».

Група дэпутатаў Вярхоўнага Савета стварыла аб'яднанне «Беларусь», але ў парламенце яны выступаюць на рускай мове.

А Беларускі шынны камбінат у Бабруйску? Чаму Беларускі, а не Бабруйскі? Цяжка знайсці на гэтым камбінаце нешта беларускае. Ці цэментны камбінат, які будуецца ў Касцюковіцкім раёне Магілёўскай вобласці. Ён яшчэ не пабудаваны, не працуе, а ўжо атрымаў назву «Беларускі». Такое бессэнсоўнае ўжыванне слова. Можа, у іх ёсць надзея, што слова гэта ад інтэнсіўнага пракату зашмальцуецца? І тады прыхільнікі інтэрнацыяналізму лёгка ад яго пазбавяцца.

Хто вінаваты ў тым, што Закон аб мове на Беларускай чыгунцы не толькі не выконваецца, а адкрыта ігнаруецца?

Вядома, што не звяртае ніякай увагі на выкананне закона пракуратура. Ні рэспубліканская, ні ў раёнах. Ні пра праверкі выканання, ні пра папярэджанні, ні пра ўзбуджэнне крымінальных спраў за невыкананне закона ў нашым друку не было паведамленняў. Вядзецца адкрыты сабатаж.

Барацьбу з сабатажам павінны весці чэкісты. У мінулым яны бачылі сабатаж там, дзе яго не было. Пацярпела шмат людзей. Цяпер сабатаж навідавоку. Перманентны. А чэкісты нічога не бачаць і не чуюць. І маўчаць. Яны пагрозу бачаць у іншым.

Дзіўная пазіцыя і мясцовых улад. Яны імкнуцца захаваць статус-кво. Прапановы аб тапанімічных зменах рашуча адхіляюцца. У такіх варунках не могуць плённа і дзейсна працаваць такія грамадскія арганізацыі, як Таварыства беларускай мовы, тапанімічныя камісіі. Імкненні адных ігнаруюцца, іншых — не заўважаюцца.

**Валянцін ЖЫДЦ,**
краязнавец

*г.Бабруйск*

*Аўтар гісторыка-мовазнаўчага нарыса пра Літву і Жамойць Іван Ласкоў ідзе да сваіх парадаксальных і смелых — як зазвычай — высноў доўгім, марудлівым шляхам. Але, пачынаючы чытаць работу, няварта лічыць шматлікія агаворкі, багатае цытаванне залішнімі рэчамі: чытача чакае ў выніку азнаямленне з нязвыклай канцэпцыяй паходжання нашых продкаў... Канешне, як і кожная канцэпцыя, довады І. Ласкова небясспрэчныя; трэба думаць, гісторыкам, лінгвістам будзе што закінуць аўтару-эсэісту. Ды рэдакцыя, публікуючы нарыс, і разлічвае на па магчымасці шырокае абмеркаванне праблемы, якую ставіць І. Ласкоў.*

# ДАГІСТАРЫЧНЫЯ БЛУКАННІ: ЛІТВА І ЖАМОЙЦЬ

**Іван ЛАСКОЎ**

## *Частка першая*

Першабытны паляўнічы быў вандроўнікам. Яго цягнула ўдалеч жаданая неруш, поўная няпуджанай дзічыны.

Звычка ісці і ісці за гарызонт засталася і пасля таго, як чалавек надумаўся кідаць у зямлю зерне. Бо напачатку палеткі яго, «угноеныя» толькі падсечным попелам, выдыхаліся вельмі хутка: ужо праз пяцьшэсць год яны нічога не радзілі, і іх усё адно трэба было мяняць, зноў біць у пушчы ляда.

Так цягнулася датуль, пакуль паляўнічы, што стаў адначасова земляробам, не абзавёўся яшчэ і быдлам, якое давала не толькі мяса і малако, але і гной. Цяпер уробленая глеба магла карміць вечна. Кідаць палеткі стала пакутліва, і чалавек застаўся б пры іх. Але не ўсё вырашалі ягоныя жаданні.

Земляробства ў найбольш развітых краінах прывяло да рабаўладання. Рабаўладальнік апрацоўваў зямлю не сваімі рукамі. Галоўнай мэтай дзяржавы стала здабыча рабоў. У дрымучых лясах за межамі цывілізаваных краін легіёны ўзброеных мужчын палявалі не на ваўка і аленя — на чалавека, каб, пазбавіўшы яго волі, прадаць на нявольніцкім рынку.

У сваю чаргу, і варвараў вабілі багацці цывілізаваных. Невядома адкуль, з паўночных нетраў або ўсходніх стэпаў, накочваліся ваяўнічыя хвалі, то атрымліваючы ад легіёнаў у зубы, то пранікаючы ў самае сэрца Рыма і Візантыі.

Час так званага вялікага перасялення народаў — пачатак новай, нашай эры.

Варвары «пісалі» мячамі ды коп'ямі. Пёрамі карысталіся толькі цывілізаваныя. А пісалі яны, зразумела, найперш пра тых, хто іх турбаваў болей, тыя ж вандалы ды гуны. А плямёны, што ціха-мірна палявалі ды аралі пад бокам імперый, не прыцягвалі ўвагі храністаў. І на скрыжалі яны не трапілі. А ў іх жа, кожнага, была свая гісторыя. Як яны называліся, з якіх прычын здымаліся з месца і шукалі шчасця або ратунку, дзе жылі ў тое ці іншае стагоддзе — мы не ведаем. Анічога...

На траве, на лісці, на пяску след нагі або капыта, каляіна мажары часцей за ўсё трымаецца адно да першага дажджу. Як жа нам узнавіць шляхі дагістарычных вандровак?..

На шчасце, ёсць матэрыял, які захоўвае сляды чалавечых блуканняў тысячагоддзі. Гэты матэрыял — мова.

Ды вось бяда: тых слядоў мала хто шукае. А калі яны і самі кідаюцца ў вочы, часцякам ва ўпор не бачаць. І тады сапраўдная гісторыя падмяняецца прыдуманай, падманнай...

Яшчэ ў 1615 годзе нейкі Міхал Ліцвін «прывёў каля ста падобных слоў лацінскай і літоўскай моваў» /Языки народов СССР, т. 1. М., 1966 — у далейшым ЯН СССР, арт. «Литовский язык», с. 502/. А хто гаварыў на лацінскай мове? Грамадзяне Рыма.

Яшчэ. Тэрыторыя, на якой размяшчалася ўчарашняя Югаславія, у рымскія часы звалася Ілірыкам /История Венгрии, т. 1. М., 1971 — у далейшым ИВ, с. 36/. Тут жылі плямёны з ілірыйскай мовай. Не была яна пісьмовай, і засталося ад яе вельмі мала: імёны ілірыйцаў, тапонімы Ілірыка, жменька слоў. Але і тое, што захавалася, сведчыць: «Ілірыйская мова... паказвае сувязі з паўночнымі індаеўрапейскімі мовамі — балцкімі, германскімі, славянскімі» /Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990 — у далейшым ЛЭС, с. 172/. Як бачым, у пераліку паўночных індаеўрапейскіх моў балцкія стаяць на першым месцы, г. зн. яны бліжэйшыя да ілірыйскай, чым германскія і славянскія, хаця славяне жывуць у самім былым Ілірыку, а германцы /аўстрыйцы/ з ім мяжуюць.

Тэрыторыю на ўсход ад Ілірыка ў рымскія часы займалі дакафракійскія плямёны. Ад мовы іх засталося прыблізна гэтулькі, як ад ілірыйскай. Але і тыя рэшткі выяўляюць «цесную сувязь з балтыйскімі мовамі», адкрытую расейскім лінгвістам У. Тапаровым /ЛЭС, с. 561/.

І гэта не ўсё. Як піша У. Тапароў, «шэраг тапанімічных ізаглос яднае балтыйскі арэал з Панoніяй, Балканамі і Адрыятычным узбярэжжам» /ЛЭС, с. 64/, г. зн. у Прыбалтыцы маюцца такія ж геаграфічныя назвы, як на Балканах, у Адрыятыцы і Паноніі — той частцы Венгрыі, што ляжыць на захад ад Дуная /гл. Советский энциклопедический словарь/.

У 15 томе другога выдання БСЭ ёсць «Этническая карта Европы». На ёй пазначана, дзе жылі народы, вядомыя антычным аўтарам — рымлянам і грэкам. Хто ж тады, паводле іх, жыў у Прыбалтыцы? Толькі тры групы плямёнаў: *карэоты, осіі* і *галінды*. Пра *літву, жамойць /жмудзь/, латгалаў, земгалаў, прусаў* старажытныя аўтары не чулі.

На якія ж думкі павінна наводзіць усё гэта аб'ектыўнага даследчыка? Што ў антычныя часы літвы, жамойці, латгалаў, земгалаў, прусаў у Прыбалтыцы не было, што продкі носьбітаў балтыйскіх моў жылі недзе паблізу ад Рымскай імперыі, а можа, і ў ёй самой, дзе суседзілі з ілірыйцамі і фракійцамі, а можа, былі часткай тых або другіх, бо ілірыйскую і фракійскую мовы мы ведаем занадта слаба, каб катэгарычна гэта адмаўляць. Ды на балтаў погляд пануе іншы. Вось што пішуць у Летуве, і прыблізна тое ж пішацца ўсюды: «Прарадзіма балтаў — хутчэй за ўсё, міжрэчча Віслы і Дняпра. Продкі балтаў — прабалты сфармаваліся напрыканцы 3-га тысячагоддзя да н. э. у выніку асіміляцыі індаеўрапейскіх груп носьбітаў культуры шнуравой керамікі, што шырока распаўсюдзіліся ў Сярэдняй і Паўночнай Еўропе, з мясцовымі плямёнамі, тамсама еўрапеоідамі /Литва. Краткая энциклопедия. Вильнюс, 1989 — у далейшым Литва, с. 135/.

Вось так. Усе ў Еўропе рухаліся кудысьці: кельты, германцы, славяне. Толькі балты як селі ў сваім «мядзведжым кутку» 4-5 тысяч год назад, так і сядзелі. А як жа балта-лацінскія, балта-ілірыйскія ды балта-фракійскія моўныя сувязі? Пытанне гэтае не абмяркоўваецца. Маўляў, ёсць такія сувязі — ну і добра. А здзіўляцца ім не трэба, бо тлумачацца яны агульнасцю паходжання ўсіх індаеўрапейскіх моў. Маўляў, не лацінскія гэта словы ў летувіскай, а агульная індаеўрапейская спадчына, што дасталася аж ад індаеўрапейскай пра-мовы. І ў раздзеле «Лексика» артыкула «Литовский язык» /ЯН СССР, сс. 520—521/ пра лацінскія запазычанні ў летувіскай мове не гаворыцца анічога. «Найстаражытнейшыя запазычанні ў летувіскую мову, відавочна, прыйшлі з фіна-угорскіх моў, але яны вельмі мала даследаваныя» /с. 520/.

На жаль, не маю працы Міхала Ліцвіна, як і выданняў па этымалогіі летувіскай мовы /на расейскай не выдаваліся — аўтары іх немцы, палякі, летувісы/. Таму прыходзіцца абапірацца на ўласныя назіранні. /На жаль, летувіскі алфавіт, створаны на базе лацінскага, карыстаецца масай надрадкоўных і падрадкоўных знакаў, якія цяжка набраць, таму прыходзіцца перадаваць летувіскія словы нашай кірыліцай, а ніжэй, як пабачыць чытач, гэта будзе зроблена і ў дачыненні да латышскіх і румынскіх слоў/. Дапусцім, што лацінскае *calva* «чэрап» і летувіскае *галва* «галава» сапраўды ідуць ад той невядомай пра-мовы, тым болей, што і па-нашаму *галава*. Але вось пары: лацінскае *senis* «стары» — летувіскае *сянас* «стары»; лацінскае *virus* «мужчына» — летувіскае *вірас* «мужчына»; лацінскае *dentis* «зуб» — летувіскае *дантіс* «зуб»; лацінскае *jocor* «насміхацца» — летувіскае *юоктціс* «насміхацца». Чаму для тых сама значэнняў мы карыстаемся зусім іншымі словамі? Наша ж мова таксама індаеўрапейская. А вось яшчэ: палацінску «барана» — *осса*, па-летувіску — *акечёс*. Ці была ў часы індаеўрапейскай пра-мовы /калі тая пра-мова ўвогуле была/ барана? Па-лацінску «кола» — *rota*, па-летувіску — *ратас*. Ці было ў праіндаеўрапейскія часы кола? Цяжка паверыць. Індзейцы Амерыкі аж да прыходу еўрапейцаў да кола так і не дадумаліся...

І ў румынскай мове маюцца паралелі з балтыйскімі, на што, здаецца, яшчэ не звярталася ўвагі /гл. ЛЭС: Балтийские языки, Латышский язык, Литовский язык; Румынский язык/. Ва ўяўленні шматлікіх людзей, нават філолагаў, румынская мова — нейкая сумесь лацінскіх ды славянскіх слоў. Гэта правільна толькі часткова. Вельмі значны пласт румынскай мовы складаюць рэшткі тых, якімі карысталіся продкі румынаў да прыходу рымлянаў — дакі, фракійцы, а, можа, і нейкія іншыя. Зразумела, што найболей цікавыя для нас — супадзенні з балтыйскімі тых румынскіх слоў, што з'яўляюцца з паходжання мясцовымі, не лацінскімі і славянскімі. Напрыклад, па-пруску *апэ*, па-летувіску і па-латышску *упэ* — «рака», а па-румынску *апэ* — «вада». Па-летувіску і па-латышску *дайна* — «народная песня», па-румынску «народная песня» — *дойна*. Па-летувіску *шяўрэ* — «поўнач», па-румынску *сяра* — «вечар». Па-румынску *варф* — «вяршыня, верх, вярхушка, кончык», па-летувіску і па-латышску *варпа* — «колас», па-летувіску варпас — «*звон*» /прадмет/. Па-латышску рупйс — «грубы», па-румынску *рупэ* — «раўсці, ламаць, біць».

# У БОГА ЎСЕ МЫ ЖЫВЫЯ...

***(Пачатак на стар. 4)***

Рыхард Вайлер. 1922 года нараджэння. Мой равеснік...

Я зноў паехаў на лясную дарогу. Раптам прыедуць сваякі, дык трэба пагледзець, ці ўсё там як след. Можа, і пакінутай намі адзнакі няма — мінула больш года. Дзякаваць Богу, усё было на месцы. Тым часам я, як былы франтавік, атрымаў запрашэнне ад фонду Генрыха Бёля прыехаць у Германію. З сабой я ўзяў прабітую каску, патранташ, насыпаў у мяшэчак зямлі з магілы.

Германія. «Логава фашызму», як пісалі ў гады ваеннага ліхалецця. Імчымся па «аўтабане» — роўнай, як страла, дарозе. А галава і сэрца суладдзя не знаходзяць. Сустракаецца па дарозе стары немец, а я ў думках надзяваю яму на галаву каску і ўяўляю, якім ён быў у 18 - 20 гадоў. Мне не давялося дайсці да Берліна. Я быў паранены ў 1944 годзе і спісаны «пад чыстую». Але з якой зайздрасцю глядзелі мы, інваліды, у дзень Перамогі на салдат, пераможцаў, якім кідалі пад ногі кветкі, падкідалі ўгару. Яны былі ў новых гімнасцёрках, начышчаных ботах, з бліскучымі медалямі «За ўзяцце Берліна»...

## *Берлін*

Цяжка мне перадаць пачуцці, якія адольвалі мяне і ў Берліне. Канешне, гэта не той Берлін, які мы бачылі ў дакументальным фільме «Падзенне Берліна». Усё тут зіхаціць, паліцы гнуцца ад тавараў. Пераможаныя жывуць куды лепш за пераможцаў.

Спыніўся я ў доме на Турмштрасе. Выйшаўшы на балкон, убачыў вялізны, цёмнага колеру дом. Гэта — Дом права. Людзі старэйшага пакалення помняць фотаздымкі, якія абляцелі ўвесь свет, — менавіта тут праходзіў судовы працэс над Георгіем Дзімітравым, які абвінавачваўся ў падпале рэйхстага ў 1933 годзе. Абвінаваўцам быў Герынг. Па іроніі лёсу, сусед па кватэры, у якой мы спыніліся, таксама носіць прозвішча Герынг.

У двары Дома права — турма «Маабіт». Там чакае суда Эрых Хонекер. Перад турмой невялікія пікеты — адны патрабуюць былому камуністычнаму лідэру смяротнага прысуду, другія, наадварот — поўнай рэабілітацыі.

З асаблівым хваляваннем падыходзіў я да рэйхстага, на купале якога Кантарыя і Ягораў умацавалі сцяг Перамогі. Купала даўно няма. Расказваюць, што амерыканскі сяржант, які стаяў тут на варце, па цаглінцы зняў купал, загарнуў у пергаментную паперу і адправіў да сябе ў ЗША. Легенда гэта ці праўда — не ведаю.

Падняўся на прыступкі, падышоў да сцяны, на якой салдаты нашы пакідалі свае аўтографы. Аўтографы даўно змыты. Затое ўздоўж рэйхстага ўстаноўлены доўгія сталы, на якіх за бясцэнак можаце купіць любы савецкі ордэн ці медаль. Шчыра скажу, зашчымела сэрца, гледзячы на ўсё гэта. Мне помніцца, як старшына нашай роты разведчыкаў Марахін з гонарам гаварыў:

— Братва, хто возьме жывым «языка», той атрымае самую высокую баявую ўзнагароду — «Медаль за адвагу».

Цяпер медаль «За адвагу» каштуе адну марку. Ордэн «Чырвонай Зоркі» — дзве. І самае дзіўнае, што прадаюць іх туркі. Для іх усё гэта — «жалезкі», не больш. Я раней не вельмі разумеў логіку тых, хто ў нашых газетах дае аб'явы тыпу: «Куплю баявыя ордэны і медалі». Потым нехта мне растлумачыў, што з Беларусі іх вязуць у Турцыю, дзе мяняюць на скураныя курткі, а нашы, крывёй заваяваныя ордэны, прадаюцца туркамі ля рэйхстага.

